# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(40) Красавік 1997 April Год выд. 5






Вялікдзень, вяліканьне — старажытнае веснавое сьвята славянаў у гонар сонца, абуджэньня прыроды і надыходу "вялікіх дзён" палявых работаў.

Пазьней да яго было прымеркавана хрысьціянскае сьвята — Уваскрасеньне Хрыста. Сьвята пераходнае, па царкоўных патрабаваньнях Вялікдзень павінен прыпадаць на першую нядзелю пасьля першай вясеньняй поўні, — першай поўні пасьля 21 сакавіка.

Вялікдзень — адно з самых радасных сьвят у нашым жыцьці. Адзначаем яго вельмі ўрачыста. Гатуем багата скаромных страў — пасьля заканчэньня вялікага посту. Наладжваем гульні, хаджэньне валачобнікаў. Сьпяваем Вялікодныя песьні...

*Хрыстос Уваскрос! К Табе, о, Божа*
*І я ў дзень гэты думку шлю:*
*Хай Беларусь, мая старонка,*
*Ускрэсьне к лепшаму жыцьцю...*

*Я. Купала*



Хрыстос уваскрос із мертвых, сьмерцяю сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё дараваў.



## Эўрапейскі саюз рэкамэндуе Беларусі...

Прадстаўнік Эўрапейскага саюзу Ары Коста нядаўна сустрэўшыся з А. Лукашэнкам уручыў яму даклад студзенскай місыі ЕС у Беларусі і заключэньне Савета міністраў гэтай арганізацыі. Па просьбе А. Лукашэнкі гэтыя дакумэнты часова застаюцца закрытымі.

Паводле службы радыё "Свабода" мы даведваемся, што найбольш неспрыяльны пункт заключэньня Эўрапейскага саюзу для А. Лукашэнкі, гэта трэйці пункт, у якім сьцьвярджаецца, што Савет міністраў прыйшоў да адзінай думкі, што **"Канстытуцыя Беларусі 1994 году застаецца легітымным Асноўным законам Беларусі, а парлямэнт, выбраны падчас дзеяньня гэтай Канстытуцыі застаецца легітымным заканадаўчым ворганам"**. Вакол гэтага пункту паміж прадстаўніком ЕС і беларускім бокам узьнікла гарачая спрэчка ў якой Лукашэнка сказаў, што ня можа быць і размовы да вяртаньня Канстытуцыі 1994 г.

Паводле рэкамэндацыяў студзенскай місыі ЕС, Эўрапейскі саюз давёў да ведама А. Лукашэнку, што яму трэба прыняць "неабходныя меры з мэтай забясьпячэньня прынцыпу падзелу ўладаў, пачаць дыялог адміністрацыяй Лукашэнкі з прадстаўнікамі Вярхоўнага Савету дзеля дасягненьня агульнанацыянальнага кансэнсусу паводле новых прапановаў, што ставяць на мэце выправіць паказаныя недахопы ды забясьпечыць рэальную свабоду сродкаў масавай інфармацыі.

Эўрапейскі саюз мае намер уплываць на выкананьне сваіх рэкамэндацыяў тым, што сябры ЕС ня будуць падтрымоўваць Беларусі пры ўступленьні яе ў Савет Эўропы, ЕС ня будзе працягваць работу па заключэньню часовага пагадненьня аб гандлі і пытаньнях зьвязаных з гандлем, або пагадненьня аб партнёрстве і супрацоўніцтве. Будуць абмежаваныя двухбаковыя ўрадавыя кантакты з Беларусьсю і перагледжаны праграмы тэхнічнай падтрымкі, таксама ЕС будзе аказваць уплыў на міжнародныя фінансавыя арганізацыі.

Разам з тым ЕС не адмаўляецца ад дыялёгу з беларускім кіраўніцтвам, падкрэсьліваючы, што ён не імкнецца да ізаляцыі Беларусі. Эўрапейскі саюз зазначае, што хацеў-бы бачыць Беларусь з часам у саставе эўрапейскіх структур, але падкрэсьлівае, што гэта залежыць толькі ад Беларусі.

*Увесь Заходні сьвет сёньня ўжо вельмі добра ведае, хто кіруе Беларусьсю і адкуль гэтыя асобы прыбылі на Беларусь...*

## Сакавіковая Дэманстрацыя ў Менску

Як паведамляюць нам з Менску, 23 сакавіка адбылася тут масавая дэманстрацыя з нагоды адзначэньня гістарычнага дня 25-га Сакавіка, дня абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе.

У дэманстрацыі прыняло ўдзел каля 10.000 чалавек. Дэманстрацыя была накіравана таксама супраць прэзыдэнта А. Лукашэнкі і яго, чужое беларускаму люду, інтэрнацыянальнае каманды. Адбыліся сутычкі з міліцыяй... Былі параненыя і каля 70 чалавек арыштаваных, сярод якіх аказаліся Сяргей Аляксандраў, першы сакратар Амэрыканскае Амбасады, Генадзь Карпенка і Юры Захарэнка, былы міністр унутраных спраў Беларусі. Міліцыя, па загаду Лукашэнкі, закідае Спадару Сяргею Аляксандраву працу ў разьведвальным воргане Амэрыкі. Дарэчы, Сп. Аляксандраў — беларускага паходжаньня. Спадар Г. Карпенка зьяўляецца адным з праваднных лідэраў афіцыяльнае апазыцыі супраць Лукашэнкі. Барацьба з Лукашызмам набірае сілы...

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

*ЗАЯВА ДЗЯРЖАЎНАГА ДЭПАРТАМЕНТА ЗША*

## ЗМЕНА ПАЛІТЫЧНАГА КУРСА

**28 лютага пасольства ЗША ў Мінску апублікавала заяву Дзярждэпартамента ЗША аб пераглядзе амерыканскай палітыкі ў адносінах да Беларусі пасля праведзенага ў нас рэферэндуму. Раней урад ЗША давёў да ведама кіраўніцтва Беларусі аб змяненні сваёй палітыкі.**

**Дзярждэпартамент ЗША заяўляе аб сваёй заклапочанасці тым, што адбывалася ў апошнія месяцы ў нашай краіне, і лічыць мінулагодні рэферэндум "несапраўдным і недэмакратычным". Раней дзярждэпартамент ЗША прысвяціў 19 старонак свайго даклада праблеме правоў чалавека ў Беларусі, у якім выказаў заклапочанасць пагаршэннем сітуацыі ў гэтай галіне. Зноў жа, асноўныя спасылкі былі на мінулагодні рэферэндум. Улады ЗША зазначаюць, што, на іх погляд, Беларусь вяртаецца да метадаў аўтарытарнага кіраўніцтва часоў СССР, што ў нас абмяжоўваецца свабода слова, шэсцяў, недатыкальнасць дэпутатаў і інш.**

**"Адыход Беларусі ад гэтых прынцыпаў у значнай ступені ізаляваў яе ад сусветнай супольнасці і звузіў рамкі канструктыўных адносін са Злучанымі Штатамі", — адзначаецца ў заяве Дзярждэпартамента ЗША. Сутнасць новай палітыкі ЗША ў адносінах да Беларусі заключаецца ў тым, што палітычныя кантакты паміж двума бакамі на высокім узроўні з гэтага часу будуць рэдкімі, дыпламатычныя адносіны будуць ажыццяўляцца толькі на ўзроўні іх адпаведнасці мэтам ЗША. Кантакты з парламентам і Канстытуцыйным судом Беларусі, метады фарміравання якіх не прызнаюцца ў ЗША законнымі, будуць зведзены да мінімуму, "неабходнага для вядзення істотных спраў". Зменіцца таксама праграма па супрацоўніцтву ў ваеннай галіне, ЗША адмаўляюцца ад планавання альбо страхоўкі сваіх інвестыцый у нашу краіну, прыпыняе дзейнасць у нашай краіне амерыканскае агенцтва па гандлю і развіццю, а таксама спыняецца фінансаванне "Эксімбанкам" беларускіх суб'ектаў, урад ЗША заклікае патэнцыяльных інвестараў у нашу краіну шукаць магчымасці ў суседніх дзяржавах.**

*ТАЯМНІЦА РЭЛІКВІІ* "Голас Радзімы"

## КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ МОЖА ЗНАХОДЗІЦЦА Ў РАСІІ

**Нацыянальную рэліквію Беларусі — крыж Ефрасінні Полацкай, які бясследна знік у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, трэба шукаць у Расіі. Аб гэтым заявіў Інтэрфаксу кіраўнік цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ Беларусі Генадзь Санюкоў.**

**Паводле яго слоў, надзею на вяртанне святыні беларускія спецслужбы ў немалой ступені звязваюць з прыняццем Дзярждумай РФ Закона аб культурных каштоўнасцях, перамешчаных у СССР у выніку другой сусветнай вайны.**

**Крыж быў выкананы майстрам-ювелірам Лазарам Богшам і падораны ў XII стагоддзі княгіні Ефрасінні Полацкай. Па паданню, праклцце вісела над кожным, хто спрабаваў несправядлівым шляхам завалодаць крыжам. Так, захапіўшы яго ў якасці трафея ў адной з бітваў, рускі цар Іван Грозны не асмеліўся пакласці крыж у свае скарбніцы і вярнуў палачанам.**

**У пачатку 1941 года культавыя каштоўнасці з усіх храмаў Беларусі былі звезены ў Магілёў і змешчаны на захаванне ў пакой-сейф гарадскога абкома кампартыі.**

**Па адной з распрацоўваемых КДБ Беларусі версій, каштоўнасці з сейфа былі эвакуіраваны ў Маскву і дастаўлены ва Упраўленне кадраў Чырвонай Арміі на Ленінскіх гарах. Далейшы лёс каштоўнасцей невядомы.**

**Супрацоўнікі кампетэнтных органаў рэспублікі выключаюць версію, па якой крыж мог "сплысці" па "лэнд-лізу" за акіян і цяпер знаходзіцца ў прыватнай калекцыі на Захадзе.**

**Г. Сенюкоў мяркуе, што крыж захоўваецца ў запасніках Дзяржаўнага Эрмітажа ў Пецярбургу або музеяў Уфы і Самары. Менавіта там у гады Вялікай Айчыннай вайны знайшлі прыстанішча архівы Магілёўскага абкома партыі.**



# Новае вяртанне Чубайса і імкненне да інтэграцыі ставяць на парадак дня пытанне аб тэмпах і якасці нашых рэформаў

***Апошнія падзеі, звязаныя з інтэграцыйнымі працэсамі ў рамках беларуска-расійскага супольніцтва (сустрэча прэзідэнтаў у Маскве, якая адбылася на мінулым тыдні, і прыняцце адпаведнай заявы), з аднаго боку, і прызначэннем у Расіі на пасаду першага віцэ-прэм'ера Анатоля Чубайса — з другога, выклікаюць нямала пытанняў і адносна тэмпаў і якасці праводзімых у нас рэформаў, і адносна самой інтэграцыі. Да фактычнага кіраўніцтва ў Расіі прыйшоў (няхай толькі і на пасаду першага віцэ-прэм'ера) адзін з найбольш цвёрдых прыхільнікаў ліберальных традыцый, з імем Чубайса звязваюць правядзенне ў Расіі эканамічных рэформаў, а найперш — хуткай прыватызацыі. Карацей, ён з'яўляўся і з'яўляецца найбольш паслядоўным рыначнікам...***

***Такім чынам, якімі могуць быць рэфарматарска-інтэграцыйныя працэсы ў нашай рэспубліцы цяпер?***

***На пытанні «Звязды» адказвае кіраўнік Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» Леанід ЗАІКА.***

**— Леанід Фёдаравіч, як бы вы ахарактарызавалі адзначаную сітуацыю?**

— Сітуацыя калі не унікальная, то надзвычай своеасаблівая. Інтэграцыя дапускае высокую ступень узаемаразумення партнёраў, прыкладна аднолькавыя або падобныя эканамічныя ўмовы... Новае вяртанне Чубайса азначае вяртанне Расіі да рэформаў узору 1992 года, калі яны праводзіліся ў поўным аб'ёме і найбольш паслядоўна. Варта прызнаць: наступныя гады мала што далі Расіі ў гэтым плане. Увесь дынамізм быў страчаны, краіну захліснулі неплацяжы, карупцыя, надзвычайнай праблемай стала напаўняльнасць бюджэту... У нас жа хуткасць і паўната рэформаў не прапаведаваліся і не прапаведуюцца. Яўная нестыкоўка, калі мець на ўвазе інтэграцыю. Нашаму ўраду вельмі складана будзе. Патрэбны і хуткая прыватызацыя, і больш жорсткая манетарная палітыка і іншыя меры, многія з якіх называюць непапулярнымі і да якіх у нас становяцца вельмі насцярожана. У нас унутрана не гатовы праводзіць лібаральна-рыначную эканамічную палітыку. Не гатовы і ў прафесіянальным плане.

**— Ельцын, аднак, зазначыў падчас сустрэчы: «Мы блізкія па духу, па ўзроўню рэформаў, у тым ліку эканамічных...»**

— Гэта, па вялікаму рахунку, чыста палітычная заява і пажаданне хутчэйшай сінхранізацыі рэформаў.

**— Чубайса ў Расіі могуць не прыняць, ён можа аказацца з недастатковымі паўнамоцтвамі...**

— Не думаю. Гэта — ударная фігура, ён будзе адказваць не за бягучыя справы, а менавіта за дынаміку рыначнага курсу, за стратэгію. Яго прызначэнне — гэта змена агульнай эканамічнай палітыкі ў Расіі. У пасланні расійскага прэзідэнта парламенту ўжо не ўзгадвалася адносна так званай сацыяльнай скіраванасці рэформаў.

Прыярытэты — эканамічная эфектыўнасць, рыначна-ліберальныя падыходы да сацыяльна-эканамічнага развіцця, што ў выніку найбольш поўна і забяспечвае тую ж сацыяльнасць, напаўняе яе рэальным, матэрыяльным зместам. Па сутнасці, Расія цяпер таксама перад выбарам — або слухацца Чубайса, або чакаць, калі ўсё правалiцца канчаткова. Думаю, што ў бліжэйшыя 3-4 месяцы ўсё ў расійскай сітуацыі вызначыцца найбольш дакладна.

**— Мы, згодна з нашай знакамітай памяркоўнасцю, таксама, як звычайна, таксама можам пачакаць, што ці хто правалiцца, і, такім чынам, не спяшацца «сінхранізаваць»...**

— Нас таксама падштурхоўвае жыццё, мы прачакалі ўжо 10 гадоў... А сапраўдная рэальнасць інтэграцыйных працэсаў пры ліберальна-рыначным прагматызме расійскай эканомікі ўжо хутка будзе выяўлена. Гэтыя працэсы, яшчэ раз падкрэслю, найперш павінны грунтавацца на аднолькавых эканамічных адносінах (вядома, калі справа не будзе зведзена да механічнага палітычнага аб'яднання.) Прычым заўважу: мы сапраўды шмат якія праграмы маглі б ажыццяўляць разам і кансалідаваць з гэтай мэтай частку бюджэтаў, што, у прыватнасці, і прадугледжваецца.

Думаю, што нам у выніку давядзецца падцягвацца да Расіі, і рабіць гэта прыйдзецца хуткімі тэмпамі. Ліберальныя палітыкі тыпу Чубайса, з іх, тым не менш, больш жорсткімі падыходамі да партнёраў і адсутнасцю ўсякага папулізму — не схільныя да таго, каб цягнуць у інтэграцыю сілай. Але затое яны і здольныя напоўніць гэты працэс больш рэальным і прагматычным зместам.

"ЗВЯЗДА"

# Знешняя палітыка Беларусі перажывае выпрабаванні

**Пасля мінулагодняга рэферэндуму вастрыня палітычнай барацьбы ў Беларусі перайшла з унутранага на знешнепалітычны ўзровень. Кіраўніцтва і апазіцыя дамагаюцца прызнання ў замежных сталіцах. Аднак пакуль што відавочна, што падобная дзейнасць апазіцыі больш паспяховая ў заходнім кірунку, а кіруючай эліты — ва ўсходнім. На гэтым тыдні знешняя палітыка Беларусі падверглася і яшчэ будзе падвяргацца сур'ёзным выпрабаванням.**

Афіцыйнае кіраўніцтва нашай краіны яшчэ не паспела асэнсаваць і адрэагаваць на рэзкую заяву Дзярждэпартамента ЗША аб змяненні амерыканскай палітыкі адносна Беларусі, як свае рэкамендацыі Мінску прывезлі з Бруселя, са штаб-кватэры Еўрасаюза. Сустрэчы Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і міністра замежных спраў Івана Антановіча з Ары Коста, а таксама тэкст даклада студзеньскай місіі ЕС у Мінску і прынятыя Еўрасаюзам рэкамендацыі нашаму кіраўніцтву застаюцца пакуль недаступнымі для журналістаў і шырокай публікі. Паведамляецца, што наконт гэтага была просьба менавіта беларускага боку. Натуральна, што патрэбен час, каб асэнсаваць гэтыя рэкамендацыі і адрэагаваць на іх.

Нягледзячы на тое, што ва ўнутраны беларускі канфлікт, які даследаваўся місіяй ЕС, быў уцягнуты не толькі прэзідэнцкі бок, але і Вярхоўны Савет, які цяпер распушчаны, кіраўніцтва апошняга таксама не атрымала гэтых дакументаў. Першы намеснік старшыні ВС Васіль Новікаў зазначае, што калі ён быў у саставе дэлегацыі апазіцыйных парламентарыяў у Германіі, ім там растлумачылі, што даклад місіі ЕС быў жорсткі адносна кіраўніцтва нашай краіны, што лістападаўскі рэферэндум у нашай краіне ў ЕС не прызнаюць легітымным і не лічаць, што новая Канстытуцыя з'яўляецца дэмакратычнай, бо ў ёй адсутнічае падзел уладаў.

Спробы даведацца аб змесце рэкамендацый ЕС з афіцыйных крыніц, на жаль, засталіся безвыніковымі. Аднак некаторыя апазіцыйныя дзеячы з Вярхоўнага Савета змаглі пазнаёміцца з гэтымі рэкамендацыямі праз свае каналы на Захадзе, якія лічацца надзейнымі. Яны патлумачылі карэспандэнту «Звязды», што змест рэкамендацый фактычна супадае з тымі прапановамі місіі ЕС, якія абмяркоўваліся з беларускай апазіцыяй у мінулым студзені. А канкрэтна: рэкамендуецца прызнаць рэферэндум неабавязковым, кансультатыўным. На гэтай аснове аднавіць дзейнасць легітымных уладных структур, якая была спынена пасля рэферэндуму, стварыць пагаджальную камісію пад наглядам еўрапейскіх структур і выпрацаваць новы тэкст Канстытуцыі, прыняць яго законным чынам і дзейнічаць далей на гэтай аснове. Калі беларускі бок не прымае гэтыя прапановы ЕС, то апошні пачынае згортваць свае адносіны з афіцыйнай Беларуссю, у тым ліку і эканамічнае супрацоўніцтва. Тут пазіцыя ЕС супадае з нядаўняй заявай Дзярждэпартамента ЗША, можна нават дапусціць, што амерыканская палітыка ў адносінах да Беларусі ў пэўным сэнсе і прадвызначыла палітыку Еўрасаюза. Такім чынам, пагроза ізаляцыі Беларусі з Захаду становіцца больш рэальнай. Аднак відавочна, што яна не можа мець падабенства з дзеяннямі Захаду адносна Сербіі, тут усё адбываецца значна мякчэй, Захад імкнецца не адштурхнуць Беларусь цалкам, паказаць, што ён гатовы да супрацоўніцтва, але на ягоных умовах. Такая далікатнасць Захаду не ўсім даспадобы.

— Мне здаецца, што ў адрозненне ад Расіі, якая дэмакратыю ў Беларусі здала адразу, Еўропа нас здае пацішу, — лічыць Васіль Новікаў. Апошнім прыкладам дваякай палітыкі Захаду адносна Беларусі ён лічыць візіт італьянскіх парламентарыяў, якія прыбываюць 5 сакавіка ў Мінск і будуць сустракацца з членамі Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі. Афіцыйны беларускі бок можа лічыць гэта пэўным прарывам у блакадзе наваствoранага беларускага парламента.

Гэтая далікатнасць і асцярожнасць Захаду, відавочна, падмацоўваецца нежаданнем канчаткова падштурхнуць Беларусь у бок Расіі. Што датычыцца апошняй, то там, магчыма, карыстаючыся апошнімі дзеяннямі ЗША і ЕС адносна Беларусі, вырашылі выступіць са сваім ультыматумам. У адным з варыянтаў даклада Б. Ельцына ў Дзярждуме, намечанага на 6 сакавіка, які распрацоўваўся бліжэйшым акружэннем расійскага прэзідэнта, сцвярджаецца, што быццам бы існуе дамоўленасць паміж кіраўнікамі Беларусі і Расіі аб правядзенні аб'яднаўчых рэферэндумаў у дзвюх краінах у адзін дзень. Бо, маўляў, у XXI стагоддзе Беларусь і Расія павінны ўступіць разам. У Адміністрацыі беларускага Прэзідэнта са здзіўленнем адкаменціравалі такую навіну, яго памочнікі па-ранейшаму сцвярджаюць аб узаемавыгаднай інтэграцыі Беларусі і Расіі пры захаванні суверэнітэту, аб інтэграцыі па прыкладу Еўрасаюза. У любым выпадку беларускае кіраўніцтва можа быць пастаўлена ў вельмі няёмкае становішча: сустрэча двух прэзідэнтаў назначана толькі на 7 сакавіка, а ўжо 6-га, як быццам, плануецца абвясціць *аб аб'яднанні дзвюх краін як канкрэтнай задачы* расійскага кіраўніцтва. Беларускі Прэзідэнт мае намер адбыць у Маскву 6 сакавіка. Некаторыя яго памочнікі ўжо знаходзяцца там, таму пакуль што ніякіх каментарыяў адносна будучых падзей вакол інтэграцыі дабіцца немагчыма. Трэба, відаць, крыху пацярпець. Нас чакаюць новыя падзеі ў Маскве.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# ШОСТЫ ГОД НЕЗАЛЕЖНАСЦІ. А ПЭЎНАСЦІ НЯМА

**Беларусь і Украіна мелі падобныя стартавыя ўмовы, распачынаючы пабудову сваёй дзяржаўнасці. Аднак пазней нашы шляхі яўна пачалі разыходзіцца.**

НЕЯК ДАВЯЛОСЯ ехаць цягніком з Кіева ў адным купэ з трыма грамадзянамі Украіны, прычым усе яны былі прадстаўнікамі ўсходніх абласцей, так званымі «ўсходнікамі», як часта гавораць. Акурат у гэтыя дні стала вядома, што Барыс Ельцын накіраваў вядомае сваё пасланне да Аляксандра Лукашэнкі ад 13 студзеня, дзе прапаноўваў паглыбляць інтэграцыю, уніфікаваць законы і праводзіць рэферэндум аб аб'яднанні. Расійскія СМІ безапеляцыйна ўзнялі пытанне аб'яднання на такі ўзровень грамадскай зацікаўленасці, што, здавалася, адбудзецца гэтае аб'яднанне ўжо заўтра ці паслязаўтра. Прынамсі, такое ўражанне ў людзей складвалася. Украінцы з нашага купэ, даведаўшыся, што з імі едзе беларус, запыталі: ну, дык калі, маўляў, адбудзецца гэтае аб'яднанне, ці хутка вы станеце расійскай губерняй... Я адказаў, што, мяркуючы па ўсім, хутчэй за ўсё такога не адбудзецца, аднак пераканаць субяседнікаў усё ж не змог.

Разам з тым мне было цікава адсочваць інтанацыі і ацэнкі маіх суразмоўцаў-украінцаў, якія выяўляліся падчас нашай гутаркі, у адносінах да іх уласнай краіны, яе незалежнага статусу і знешняй палітыкі на постсавецкай прасторы. Самі гэтыя украінцы, нягледзячы на тое, што яны былі «ўсходнікамі», сярод якіх заўсёды былі моцныя прарасійскія і «левыя» настроі, не выказвалі ніякіх сумненняў у каштоўнасці незалежнасці для сваёй дзяржавы, яны адкрыта адабралі дзейнасць прэзідэнтаў Краўчука і Кучмы па ўмацаванню гэтай незалежнасці, ганарыліся пераменамі ў сваёй краіне, сваім тэлебачаннем, сваімі грыўнямі і г. д.

На жаль, ідзе шосты год нашай незалежнай дзяржаўнасці, і амаль кожны год незалежнасць гэтая як бы вісіць на валаску, мы як быццам самі гатовы аддаць тую каштоўнасць, за якую іншыя народы ў свой час плацілі вялікай крывёй. Апошні такі прыклад — чачэнская вайна, якая адбывалася фактычна на нашых вачах. Нягледзячы на вялікія ахвяры і разбурэнні, чачэнцы выстаялі і працягваюць дабівацца свайго — незалежнасці і сусветнага прызнання. Мы ж без дай прычыны гатовы ахвяраваць рэальнай незалежнасцю ў імя прывіднага дабрабыту і нейкай агульнаславянскай ідэі. Гэткай незразумелай самаахвярнасцю мы выклікаем толькі здзіўленне суседзяў. Што я і адчуў падчас размовы з выпадковымі ўкраінцамі. Што адчуваем практычна кожны раз, калі размаўляем з чужаземцамі.

Здаецца, наш Прэзідэнт ужо неаднойчы падкрэсліваў, што ён ніколі не згодзіцца на ператварэнне Беларусі ў губерню, што праз незалежнасць сваёй краіны ён не пераступіць, аднак заявы гэтыя не зусім супакоілі людзей, якія перажываюць за дзяржаўнасць і суверэнітэт сваёй Бацькаўшчыны, за яе месца ў цывілізаваным свеце. Прычым далёка не ўсе такія людзі прыходзілі пратэставаць у пікеты ля расійскага пасольства. У многіх нашых людзей, якім незалежнасць сваёй краіны стала вызначальнай каштоўнасцю, гарантам стабільнасці і добрых перспектыў, застаецца ў душы клопат і турбота за лёс гэтай незалежнасці. Не толькі таму, што розныя расійскія палітыкі тыпу Тулеева працягваюць настойваць на далучэнні Беларусі да Расіі. Справа ў тым, што за апошнія гады мы недалёка пайшлі ў адбудове сваёй дзяржаўнасці, нашмат адсталі ад той жа Украіны, дзе незалежнасць замацавалася ва ўнутраней і знешняй палітыцы, у моўнай, інфармацыйнай, духоўнай сферы нашмат лепш, чым у нас... Наша незалежнасць пакуль не стала адназначна незваротнай.

У РАЗГАР ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАМПАНІІ 1994 года на Украіне мне давялося пабываць у Данецкай вобласці, тады там пра Краўчука мала хто добрае гаварыў, там тады таксама панавалі прарасійскія «далучэнскія» настроі, прынамсі, сярод прадстаўнікоў старэйшага пакалення. У любым выпадку Леанід Кучма тады і выйграў выбары за кошт галасоў гэтых вось людзей, «усходнікаў», прыйшоў да перамогі пад лозунгамі супрацоўніцтва з Расіяй, як і наш Прэзідэнт. Тады, як вядома, і ў нас адбыліся прэзідэнцкія выбары, кампанія ў Беларусі і на Украіне ішла «ў нагу», практычна дзень у дзень, і прывяла да такога самага выніку: старую эліту з заходніх абласцей змяніла падтрыманая большасцю народа каманда «ўсходнікаў» з прарасійскімі лозунгамі.

Тады, летам 1994 года Беларусь і Украіна мала чым адрозніваліся па ўзроўню будаўніцтва ўласнай дзяржавы, Беларусь не адставала, наадварот, у многім апярэджвала Украіну, бракавала хіба толькі такой, як ва украінцаў, незалежніцкай рыторыкі, што прадукціравалася Галічынай. Падобнага рэгіёна нацыянальна свядомага насельніцтва, якое на самай справе змагалася за незалежнасць, у нас фактычна не было. Але на той момант у нас ужо была новая Канстытуцыя, чым не маглі пахваліцца ўкраінцы да 1996 года, у нас не было вострых палітычных, тэрытарыяльных, этнічных ці рэлігійных канфліктаў і праблем, што назіраліся на Украіне, беларускія грамадзяне эканамічна жылі яўна лепш, чым украінскія.

Леаніду Кучму сапраўды дасталася нялёгкая спадчына, і можна толькі выказваць шчырае захапленне, як за два з палоўай гады пад яго кіраўніцтвам украінская дзяржава змагла ў многім уладзіць гэтыя ўнутрыпалітычныя **праблемы**. Адно крымскае пытанне чаго было вартае. Крымская аўтаномія на чале з харызматычным прэзідэнтам Мяшковым была сур'ёзнай крыніцай нестабільнасці, Мяшкоў выказваў большую лаяльнасць да Масквы, чым да Кіева, і некаторыя маскоўскія патрыятычныя лідэры з задавальненнем паціралі рукі, чакаючы, што Крым нарэшце ператворыцца ў востраў і пачне дрэйф пад напаўрасійскім трыкалорам у бок Расіі. Гэтага не адбылося, сітуацыя на паўвостраве стабілізавалася і вярнулася ў нармальнае, законнае рэчышча. Праўда, цяпер Юрый Лужкоў пачынае кампанію па «адабранню» аднаго асобна ўзятага Севастопаля, але такой масавай падтрымкі ў Крыме, як была калісьці ў Мяшкова, ён не атрымлівае. І не атрымае. Праблема ўрэгулявалася, Крым і Севастопаль засталіся з Украінай. Гарантам таму — міжнароднае прызнанне Украіны, яе дзяржаўных межаў, яе інтарэсаў. Украіну паўтара года таму прынялі ў Савет Еўропы, яе прэзідэнта Леаніда Кучму часта можна бачыць жаданым госцем у заходніх сталіцах, і толькі з Расіяй яму пакуль не ўдаецца падпісаць двухбаковы дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве... Зразумела, мы не можам пахваліцца такімі поспехамі ў замежнай палітыцы. Наш парламент, створаны паводле новай рэдакцыі Канстытуцыі, ужо фактычна выставілі з парламенцкіх структур Савета Еўропы і АБСЕ. А ці шмат мы адкрылі пасольстваў за апошнія гады? На жаль, не. Ці шмат было візітаў на вышэйшым узроўні? Таксама. Ці хто ўлічвае нашы інтарэсы ў свеце і чуе наш голас?.. На жаль, наша дыпламатыя заціснута ў клешчы тэндэнцыйных палітычных дактрын.

А тую ўнутрыпалітычную стабільнасць, якая ў першай палове дзевяностых была галоўнай нашай характарыстыкай, мы згубілі ў вострых палітычных кампаніях 1995-1996 гадоў, у раздутым процістаянні вакол дзяржаўнай сімволікі, мовы, Канстытуцыі.

ПАЧАТАК УКРАІНСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ быў не зусім удалым **эканамічна**, адразу пасля распаду СССР украінцы пагоршылі свае жыццёвыя ўмовы больш, чым беларусы і расіяне, іх карбованец значна больш абясцэніўся і выклікаў не толькі кпіны суседзяў, але і самых грамадзян Украіны, якія называлі свае купоны «фанцікамі». Прычыны такога эканамічнага падзення зразумелыя, Украіна — гэта старапрамысловы рэгіён, з вельмі энергазатратнымі прадпрыемствамі, а вялікіх энергарэсурсаў краіна не мае. Большасць жа нашых буйных прадпрыемстваў узніклі пасля вайны, а намала іх увогуле было пабудавана ў сямідзесятых-васьмідзесятых. Так што беларуская прамысловасць была больш прыстасаванай для выжывання ў новых умовах, была больш прыцягальнай для інвестараў, аднак сур'ёзных інвестараў мы так і не дачакаліся. У нас адбылося катастрафічнае падзенне замежных інвестыцый, а мінулы год мы пражылі і без сур'ёзных крэдытаў. Таму нашы спадзяванні на аздараўленне эканомікі здаюцца праблематычнымі. Украіна ж здолела дабіцца і крэдытаў МВФ, і значнай амерыканскай грашовай дапамогі, і інвестыцый. Гэта ўжо прызнаны факт. Украінскі карбованец быў умацаваны і заменены на сапраўдную нацыянальную валюту — грыўню, якая стала моцнай апорай фінансавай сістэмы. Беларуская ж валюта працягвае абясцэньвацца і перасягнула ўкраінскі рубеж, які калісьці лічыўся вельмі паказальным. Калі адкінуць нашу дэнамінацыю і ўкраінскую грашовую рэформу і ўмоўна вярнуцца да старога савецкага рубля, ад якога і пачыналася самастойнае фінансавае плаванне маладых незалежных краін, то трэба прызнаць, што на сёння адзін долар каштуе ў Кіеве 185—190 тысяч гэтых рублёў, а ў Мінску 220—250 тысяч, а часам і больш. Прычым у Кіеве можна свабодна купіць СКВ, абменных пунктаў там поўна, і валюта там не пераводзіцца, а ў нас — цэлыя чэргі чакаюць, калі хтонебудзь здасць «зялёныя» па заніжанаму афіцыйнаму абменнаму курсу. Пара, відаць, ужо нашы грошы называць «фанцікамі».

Сярэдні заробак, пенсіі і цэны ў Кіеве і Мінску прыблізна выраўнаваліся, што гаворыць аб тым, што і ў сацыяльна-эканамічным плане Украіна пачала выходзіць з крызісу, паднімацца пасля падзення. Ці наадварот, што мы падаем яшчэ ніжэй і ўжо не можам, як калісьці, пахваліцца лепшым жыццём, чым украінцы, нягледзячы на больш прыязнае стаўленне да Беларусі з боку Масквы, падпісаныя дагаворы аб нулявым варыянце і энерганосьбіты па льготных цэнах...

МІЖКАНФЕСІЯНАЛЬНАЕ ПРОЦІСТАЯННЕ паміж праваслаўнымі і грэка-католікамі Украіны, паміж праваслаўнымі, што знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Кіеўскага і Маскоўскага патрыярхатаў, таксама страціла былую вастрыню, усё часцей з Украіны прыходзяць паведамленні аб тым, што вернікі розных канфесій і юрысдыкцый праводзяць супольныя набажэнствы, або моляцца ў храмах па чарзе. І ўкраінскія ўлады ўжо гатовы падтрымаць ідэю візіту на Украіну папы рымскага, чаго раней баяліся, не жадаючы абвастрэння міжканфесіянальных супярэчнасцей... Чаму так адбываецца? Бо іерархі і вернікі розных канфесій разумеюць роўнае стаўленне да іх дзяржавы, відавочна, што ніводная з іх не мае магчымасці манаполіі ці дамінавання ў дзяржаве ў цэлым. Адказнасць жа за лёс уласнай краіны, за яе прэстыж прымушае шукаць шляхі паразумення.

Асобнай размовы заслугоўвае **моўная палітыка.** У 1994 годзе яшчэ не было чуваць асаблівых пратэстаў супраць беларускамоўных школ, якія паступова пераводзілі на родную мову навучання большасць першакласнікаў. Ва Украіне сітуацыя была значна вастрэйшая, ва ўсходніх яе абласцях і ў Крыме непрызнанне ўкраінскай мовы было значным і даволі гучным. Украінскія класы і школы там прыходзіліся ўкараняць праз стварэнне школ з больш высокім статусам: гімназій, ліцэяў і г. д. Відавочным быў раскол па моўнай прымеце сярод рэгіёнаў. Ды і цяпер гэтая праблема да канца не знятая, аднак ніхто ўжо сур'ёзна не ставіць пад сумненне статус украінскай мовы як адзінай дзяржаўнай. Нават ва ўсходніх абласных адміністрацыях пачалі пераводзіць афармленне дакументаў на ўкраінскую мову. Пачуць рускую мову ва ўкраінскай Вярхоўнай Радзе гэтак жа цяжка, як у нашым нядаўна створаным парламенце — беларускую... Заваёўвае сабе ўсё больш дастойнае месца ўкраінская мова і ў школах, інстытутах, на вытворчасці, у мас-медыя. Цяпер усе тавары, якія прадаюцца на ўкраінскім рынку, павінны мець абазначэнні на дзяржаўнай украінскай мове. Між тым, руская мова ўсё яшчэ застаецца вельмі значнай у жыцці ўсходніх абласцей, яна прыжылася і ў новых умовах, у прыватнасці, у вялікай ступені яна абслугоўвае малады ўкраінскі бізнес.

З гэтым усім ніяк нельга параўнаць нашу сітуацыю з роднай мовай, якая фармальна лічыцца дзяржаўнай, а на справе цалкам саступіла гэтае месца рускай мове. Такі значны адкат ад здабытага ў моўным адраджэнні ў першыя гады незалежнасці нельга вытлумачыць цяжкай зыходнай сітуацыяй, ведаючы пра прыклад Украіны, дзе таксама былі вострыя праблемы на гэтай глебе. Гэты адкат сведчыць пра адсутнасць паслядоўнай незалежніцкай палітыкі ў нашай краіне.

БОЛЬШАСЦЬ УКРАІНСКІХ ТЭЛЕКАНАЛАЎ — украінскамоўныя, у тым ліку і недзяржаўныя. Украіна мае тры агульнанацыянальныя тэлеканалы, безліч рэгіянальных, яна пераадолела існаваўшае дамінаванне расійскага радыё і тэлебачання на карысць уласнай **сістэме мас-медыя**, якая развілася і ахапіла ўсю краіну. Прычым украінскія тэлеканалы і прыватныя штодзённыя газеты зусім не назавеш, у адрозненне ад нашых, правінцыяльнымі, яны робяцца на сярэднім еўрапейскім узроўні. Сфера мас-медыя Украіны будуецца на камерцыйнай аснове, СМІ дэманапалізаваны, яны становяцца самастойнай уплывовай сілай у грамадстве, яны сталі вельмі мабільным сектарам рынку, новыя газеты і тэлекампаніі ствараюцца, развіваюцца, знікаюць, на іх месцы паўстаюць іншыя.

У нас жа дамінаванне расійскіх СМІ не толькі не зменшылася, але і значна пашырылася, мы цалкам залежым ад расійскіх інфармацыйных крыніц, якія, натуральна, зыходзяць з расійскіх дзяржаўных інтарэсаў. Без уласнай самадастатковай сістэмы мас-медыя немагчыма існаванне нармальнай незалежнай дзяржавы...

ЯШЧЭ МОЖНА ПРЫВЕСЦІ нямала прыкладаў таго, як мы адсталі ад нашай паўднёвай суседкі ў будаўніцтве ўласнай незалежнай дзяржавы, хоць зыходзілі мы з фактычна аднолькавых стартавых умоў. Ды шляхі нашы яўна разышліся. Пакуль мы займаліся палітычнымі кампаніямі і страчвалі былую стабільнасць, Украіна набывала такую стабільнасць і замацоўвала сама сябе ў гэтым складаным свеце. Поспехі Украіны, якая ўсё яшчэ мае нямала праблем, ідуць ад разумення каштоўнасці ўласнай дзяржаўнасці, канцэнтраванні ўвагі ўсёй нацыі на гэтым і настойлівай агульнай працы. Пагадзіцеся, што нам вельмі не хапала гэтага апошнім часам.

Нядаўні пачатак палітычнага збліжэння Беларусі з Украінай (будзем спадзявацца, што гэта ўсур'ёз і надоўга), магчыма, дасць нам магчымасць зразумець гэтае адставанне і пачаць проста пераймаць добрыя прыклады Украіны ў будаўніцтве сваёй дзяржаўнасці. Яна ж таксама брацкая і славянская краіна. І ў выпадку, калі мы жадаем на самай справе захаваць свой суверэнітэт і самакаштоўнасць у свеце, на Украіну мы зможам абаперціся. Яна, відавочна, зацікаўлена ў незалежнай дэмакратычнай Беларусі і можа стаць нашай геапалітычнай падтрымкай і гарантам нашай незалежнасці.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

"ЗВЯЗДА"

## Юбілейныя Даты

айца Міхася Страпко, настаяцеля парафіі БАПЦ Божай Маці Жыровіцкай у Кліўлендзе, Огайо, ЗША.

У месяцы красавіку гэтага году прыпадае юбілей 50-ці годзьдзя сужэнства, а ў маі месяцы 30-ці годзьдзе служэньня Богу.

Шчырыя вітаньні а. Міхасю Страпко з нагоды гэтых юбілеяў выказваюць прыхаджане, сябры і прыяцелі, і жадаюць Юбіляру ды ягонай Матушцы доўгіх гадоў, добрага здароўя і далейшага служэньня Богу і Бацькаўшчыне — Беларусі.

Многія лета!



была яшчэ жывая), як дабівалі штыхамі і прыкладамі маіх братоў і мяне. Мне прыкладам дзьве рабрыны зламілі. Партызаны білі п'яныя, інакш я ня выжыў бы... Пасьля яны вынесьлі з хаты ўсё, што можна было вынесьці і запалілі яе.

Ня ведаю, як Бог даў мне цярпеньня і сілаў, каб перажыць усё гэта... Памятаю, як яны выходзілі, З. сказаў: "Пусть б... коптятся".

Цяжка паранены Струпавец здолеў патушыць полымя і адпаўзьці ў другую хату. Толькі раніцай яго знайшлі суседзі і адвезьлі, разам з параненым братам Аркадзем, у слонімскую бальніцу. Там яму зрабілі некалькі апэрацыяў. Ён выжыў, але застаўся на ўсё жыцьцё інвалідам.

Тады да яго ў бальніцу часта прыходзілі аднавяскоўцы. Ад іх ён даведаўся, што бацька, маці, два браты і сятра былі пахаваныя, але партызаны вельмі зьлаваліся, што засталіся жывыя сьведкі. Пасьля таго сьведкаў яны ўжо не пакідалі — стралялі людзей у патыліцу... А Праскоўю Д. з 13-гадовым сынам зьвезьлі ў лес, зьвязалі рукі дротам і кінулі ў калодзеж...

Была расстраляная і сям'я Т. Перад расстрэлам партызаны па чарзе гвалтавалі 17-гадовую Іру, а пасьля прымушалі яе граць на гітары. "Павесяліўшыся", каты паставілі ўсіх да сьцяны...

Спачатку мне не хацелася верыць у гэта. Нас прывучылі, што з такім цынізмам забівалі сваіх ахвяраў толькі эсэсаўцы. А тут злачынствы ўчыняла кіраўніцтва савецкага партызанскага атрада, не якія-небудзь шараговыя "разложившиеся элементы". Сярод іх былі ня толькі "ўсходнікі"-акружэнцы, але і мясцовыя. Сапраўды, гэта не былі партызаны, гэта была БАНДА. Яе структура адпавядала крымінальным законам: тут табе і "пахан", і "шасьцёрка", і "мужыкі", якіх пасылалі на "заданьні", тады самі п'янствавалі, забівалі, гвалтавалі.

Пасьля я спрабаваў зразумець, чаму людзі ня помсьцілі за сваіх забітых крэўных? На вачах сына забівалі маці, ён бачыў, хто гэта зрабіў, але нават і не падумаў пра помсту. Чаму?.. Васіль Струпавец кажа:

— Я дабіваўся, каб гэтых бандытаў судзілі (З. і "Сібірак" жылі пасьля вайны ў Слоніме, абодва ўжо не жывуць). Бо я адзін застаўся. Зь пяці сем'яў нікога не засталося наогул. Пісаў Хрушчову. Прыяжджаў да мяне палкоўнік КГБ зь Менску. Гаворыць, што З. у бальніцы ляжыць, а "Сібірак" недзе на рыбалцы, яго не знайшлі... І гэта мне гаварыў палкоўнік КГБ! Я ня вытрымаў, кажу: "Я сам яго заб'ю!" Кажа: "Отвечать будешь". Ну дык давайце судзіць, народ іх будзе судзіць. З. не адзін будзе! — кажу, яшчэ зь Менску тут многія будуць. Тут уся Беларусь замешана будзе ў гэтым". Ён толькі сказаў: "Твоё дело". Я яшчэ восем гадоў змагаўся, а пасьля паехаў у Сібір...

Усё ж некаторыя злачынцы з гэтай банды былі пакараныя. У ліпені 1944 году, калі ўжо немцы ўцяклі, пайшоў кат прыйшоў у вёску па самагон. Ня ведаў ён, што ў вёсцы ўжо быў аддзел Чырвонай Арміі. Людзі зьвярнуліся да афіцэра і паказалі на бандыта і забойцу. Салдаты раззброілі яго і пасьля кароткага суда расстралялі.

А адна "сувязная" бандыцкага адтрада даведалася пра гэта, пабегла ў лес і крычала: "Цякайце, Чырвоная Армія прыйшла, А. забілі!.."

**Сяргей Ёрш**

**P.S.** Усе ўспаміны мною задакумэнтаваныя.

## Камуністы-інтэрнацыяналісты на Ўкраіне дэманструюць...

18-га сакавіка дзесяткі тысяч рускамоўных насельнікаў Украіны дэманстравалі пад чырвонымі сьцягамі за паварот да камунізму. Дэманстрацыі пад клічамі выплаціць задоўжанасьць адбыліся ў Кіяве (каля 3000 чалавек) ды ў усходніх рэгіёнах Украіны, як Днепрапятроўск, Крым, Данецк і інш.

Гэтая камуністычная акцыя была накіравана, як супраць рынкавае эканомікі, так і супраць дзяржаўнае незалежнасьці. На Ўкраіне таксама падымае галаву прастарэлая пятая калона Масквы...

# СВЯТА ПЕРАХОДНАГА ПЕРЫЯДУ

## Дзень нараджэння якой Канстытуцыі мы адзначаем 15 сакавіка?

Уяўленне пра Канстытуцыю як пра непарушны падмурак дзяржаўнага ладу, што павінен заставацца нязменным на працягу многіх дзесяцігоддзяў, у Беларусі не прыжылося і, напэўна, у блізкай будучыні ўжо і не прыжывецца. Адно са сведчанняў гэтага — дзень 15 сакавіка, які па-ранейшаму значыцца ў календары дзяржаўных святаў.

Гэта дата — дзень нараджэння Канстытуцыі, што праіснавала менш як тры гады, — з сакавіка 1994 да лістапада 1996 года. Фармальна на мінулагоднім рэферэндуме прымаліся толькі змяненні і дапаўненні да ранейшай Канстытуцыі, але фактычна змены былі настолькі фундаментальнымі, закранулі такія найважнейшыя прынцыпы дзяржаўнага ўладкавання, перадзяліўшы ўладу настолькі кардынальна, што пра захаванне Канстытуцыі 1994 года можна гаварыць хіба што з вялікай доляй умоўнасці. Уласна, гэты тэзіс не аспрэчваюць ні стваральнікі новай Канстытуцыі, ні прыхільнікі і абаронцы Канстытуцыі ранейшай. На лістападаўскі плебісцыт былі вынесены «змяненні і дапаўненні» (а не праект новага Асноўнага закона) толькі таму, што так патрабавала дзеючае ў той час заканадаўства.

Тая мінулагодняя калізія і стала прычынай сённяшняй парадаксальнай сітуацыі са святкаваннем дня 15 сакавіка. Жыве краіна па адной Канстытуцыі, а адзначае дзень нараджэння Канстытуцыі другой — прытым у пэўным сэнсе — прамой процілегласці дзеючага Асноўнага закона. Зусім не выпадкова, што многія стваральнікі Канстытуцыі 1994 года, якія ўваходзілі ў Канстытуцыйную камісію, дагэтуль не прызналі законнасці канстытуцыйных пераўтварэнняў, што адбыліся ў краіне ў канцы мінулага года.

Звычайным радавым грамадзянам, не абцяжараным вопытам дзяржаўнай дзейнасці і грузам юрыдычных ведаў, няпроста ўнікаць у прычыны палітыка-прававых калізій. Для многіх і многіх беларусаў мінулагодні канфлікт, што разгарэўся на вяршыні ўлады, выглядаў не барацьбой ідэй, а толькі сутычкай канкрэтных асоб.

Тым не менш, востры палітычны крызіс, звязаны з Канстытуцыяй, пакінуў свой адбітак на ўсіх нас. У шырокіх колах насельніцтва ўсё ж, бадай, узнікла адчуванне, што Канстытуцыя — не абстракцыя і не пусты гук, калі вакол яе разгаралася такая барацьба і калі рэакцыя на канстытуцыйны крызіс у Беларусі з боку краін Захаду і Расіі аказалася такой зацікаўленай, супярэчлівай і ў доўгатэрміновай перспектыве такой істотнай для месца нашай краіны ў свеце.

У ідэале дзяржава, якая клапоціцца пра палітычную і эканамічную стабільнасць, пра тое, каб грамадзяне былі ўпэўнены ў сваіх правах і ў заўтрашнім дні, імкнецца да стабільнага, грунтоўнага заканадаўства, якое дзейнічала б на працягу многіх дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў. Без гэтага немагчыма прывіць грамадству галоўную адзнаку прававой дзяржавы — усеагульную павагу да Закона і ўсеагульную адказнасць перад Законам.

На жаль, сённяшняя беларуская рэчаіснасць не здольная пераканаць у тым, што прынятая ў лістападзе 1996 года Канстытуцыя — гэта ўсур'ёз і надоўга. Якой будзе Беларусь пасля 2 красавіка? А праз год? Праз пяць гадоў? Пэўнасці наконт будучыні незалежнага статусу беларускай дзяржавы няма сёння нават у першых асоб краіны. Між тым, нават паводле дзеючай Канстытуцыі, любы замах на суверэнітэт Беларусі — цяжкае злачынства. Стварыць новую саюзную дзяржаву, у якой незалежнасць Беларусі апынецца пад пытаннем, — немагчыма без чарговай кардынальнай пераробкі дзеючага Асноўнага закона, без новага рэферэндуму.

На жаль, адбітак часовасці, хісткасці, няпэўнасці ляжыць сёння на ўсім, што датычыць асноўных атрыбутаў дзяржавы. У тым ліку і на дзяржаўных святах. Якія даты будуць святкаваць беларусы заўтра, калі галоўнае палітычнае свята ў краіне на працягу толькі пяці гадоў змянілася двойчы: да 1991 года гэта была гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года; потым — Дзень незалежнасці 27 ліпеня; пасля 1996 года — Дзень незалежнасці 3 ліпеня.

Як доўга пратрымаецца ў палітычным календары дзень 15 сакавіка — гаварыць сёння гэтак жа рызыкоўна, як і сцвярджаць, што праз год-другі дзяржаўным святам у Расійска-Беларускім Саюзе не стане дзень каранацыі імператара Мікалая II. Або наадварот — што ў незалежнай ад Расіі Рэспубліцы Беларусь галоўным палітычным святам не стане Дзень абвяшчэння БНР 25 сакавіка.

У пэўным сэнсе усе сённяшнія палітычныя святы — гэта святы пераходнага перыяду, якія праходзяць выпрабаванне на сапраўднасць і спеласць разам з беларускай дзяржавай. І з усімі намі — грамадзянамі гэтай пакуль яшчэ суверэннай і незалежнай дзяржавы, якая працягвае стаяць на раздарожжы.

«Звязда» **Валянцін ЖДАНКО.**

# Што будзе пасля 2 красавіка?

**Нават за мітуснёй шматлікіх інфармацыйных паведамленняў аб сустрэчы прэзідэнтаў Беларусі і Расіі, а таксама аб рабоце III сесіі Парламенцкага Сходу Супольніцтва, якія ў апошнія дні літаральна захліснулі беларускія сродкі масавай інфармацыі, нельга не заўважыць той факт, што па сутнасці чарговы этап беларуска-расійскай інтэграцыі завяршыўся з больш чым сціплымі вынікамі. Як і прагназіравалася, вялікіх канкрэтных і дзейсных рашэнняў ні прэзідэнцкая сустрэча ў Маскве, ні парламенцкая ў Мінску не прынеслі.**

Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын абмежаваліся сумеснай заявай, у якой у чарговы раз нагадваецца пра неабходнасць уніфікацыі заканадаўстваў і сінхранізацыі рэформаў. Кіраўнікі дзвюх дзяржаў паскардзіліся на пэўную замаруджанасць працэсу інтэграцыі і недастатковую эфектыўнасць работы органаў Садружнасці, у тым ліку і Парламенцкага Сходу. Апошні ў сваю чаргу ў выніку двухдзённай работы хіба што толькі даў шырокую глебу для разваг пра лёс інтэграцыі, але ніяк не здзівіў сваімі рашэннямі. Галоўным дакументам, які ўдалося прыняць дэпутатам, можна лічыць пастанову, у якой адабраюцца прапановы Старшыні Вышэйшага Савета Садружнасці, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, выказаныя ім у праграмным дакладзе, які прагучаў на сесіі, а таксама ўтрымліваецца зварот да абодвух прэзідэнтаў правесці 2 красавіка ў Маскве сумеснае пасяджэнне Вышэйшага Савета, Парламенцкага Сходу і Выканаўчага Камітэта Садружнасці.

Такім чынам, як бачым, час прыняцця канкрэтных рашэнняў вырашана перанесці на больш позні тэрмін і прымеркаваць да першай гадавіны ўтварэння Супольніцтва. Аднак што гэта будуць за рашэнні, які характар яны будуць мець і як адаб'юцца на лёсе нашай краіны, дакладна сёння гаварыць надзвычай складана.

Тым не менш, палітыкі сваімі заявамі даюць пэўную глебу для разважанняў на гэты конт. Напрыклад, усім вядома, што Барыс Ельцын неаднаразова выказваў ідэю правядзення ў Беларусі і Расіі аднachасовых рэферэндумаў па пытанню аб'яднання. Беларускі бок сур'ёзна разглядаў гэты варыянт, але публічна сваёй рэакцыі пакуль не выказаў. Зусім рэальна, што менавіта 2 красавіка згода адносна гэтай прапановы і будзе афіцыйна агучана прэзідэнтамі ў Маскве. У такім разе кіраўнікі дзяржаў сапраўды пяройдуць ад дэкларацый да лёсавырашальных дзеянняў. Магчымы рэферэндум адносна далейшага збліжэння Беларусі і Расіі незалежна ад таго, як будзе сфармулявана яго галоўнае пытанне, можа ў многім расхалоцць беларускае грамадства.

Сёння ўсё часцей з вуснаў палітычных дзеячаў як у Беларусі, так і ў Расіі можна пачуць выказванні наконт неабходнасці набыцця Садружнасцю якасна новага статусу — міждзяржаўнага саюза. Але ў інтэрпрэтацыі розных палітыкаў гэтая абцякальная фармулёўка набывае зусім розны змест. Калі, напрыклад, кіраўнікі беларускага парламента Павел Шыпук і Анатоль Малафееў сёння гавораць пра магчымасць утварэння канфедэрацыі, то расійскія палітыкі (напрыклад, Генадзь Селязнёў і Сяргей Бабурын) усё часцей аперыруюць такім паняццем, як федэрацыя. Канфедэрацыю яны называюць толькі магчымай пераходнай фазай да канчатковага эканамічнага і палітычнага аб'яднання Расіі і Беларусі. Якраз гэтая акалічнасць і выклікае трывогу за лёс Бацькаўшчыны.

Вядома, у Рэспубліцы Беларусь склалдана знайсці чалавека, які б абсалютна адмоўна ставіўся да супрацоўніцтва з Расіяй. Але кожны для сябе вызначыў тую мяжу, якую, па яго разуменню, пераступаць нельга. Адны цалкам падтрымліваюць ідэю рэанімацыі СССР і, жывучы настальгіяй па таннай каўбасе, гатовы ўжо сёння прызнаць сваёй сталіцай Маскву, для другіх сапраўдная незалежнасць і суверэнітэт Радзімы застануцца назаўсёды святымі і непарушнымі паняццямі. Хочацца спадзявацца, што пяць гадоў незалежнасці не прайшлі для Беларусі і самасвядомасці большасці яе грамадзян марна, таму наўрад ці шмат знойдзецца сёння людзей у нашай краіне, якія сваёй жа рукой сцерлі б з сусветнай карты назву Рэспубліка Беларусь.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

— **16 сакавіка** — у Менску прайшоў трэйці кангрэс народаў Расеі, на які сабралася каля 1000 дэлегатаў з усіх краін былога СССР, нават з краін Балтыі. Адкрыў яго лідэр беларускіх камуністаў, намеснік мэра горада Чыкін. З Масквы прыехалі вядомыя камуністы Зюганаў, Ліхачоў... Вельмі цёпла сход прымаў прамову Лукашэнкі, пранізаную ідэяй аб'яднаньня. Ядром новага Саюзу, па яго словах, павінен стаць саюз "Беларусь-Расея". Кангрэс выпрацаваў маніфэст, праграма якога — аднаўленьне новага СССР. З боку Беларусі на мерапрыемства было выдзелена больш 500 млн рублёў /1 даль. — 23000 бел. рубл./

Расьціслаў Завістовіч

# 79-я ЎГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗЕЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

У сьнежні мінулага году ў Партугальскай сталіцы Лісбоне В. Чарнамырдзін узбуджана гаварыў у падтрымку свайго прыяцеля А. Лукашэнкі. Будучы на зьезьдзе прэзыдэнтаў заходніх краінаў, якія належаць да Арганізацыі па Бясьпецы і Супрацоўніцтву ў Эўропе, і слухаўшы, як прадстаўнікі розных краінаў непахвальна выказваліся пра недэмакратычную дзейнасьць ураду Беларусі і ягонага прэзыдэнта ў сувязі з рэфэрэндумам, што адбыўся 24-га лістапада, В. Чарнамырдзін, крытыкуючы заходнія краіны, казаў, што Лукашэнка радзіўся з сваім народам і што на гэта ён, як прэзыдэнт краіны, мае поўнае права. Расейскі прэм'ер цудоўна ведаў, што ніхто не забараняе Лукашэнку радзіцца з беларускім народам. Ён ведаў, што восеньскі рэфэрэндум праводзіўся па за рамкамі закону, што Канстытуцыйны Суд краіны, ані беларускі парлямэнт, ані Дзяржаўная выбарчая камісія Беларусі не пагаджаліся з прэзыдэнтам наконт абавязваючага аспэкту вынікаў рэфэрэндуму. Паколькі рэфэрэдум быў нелегітымным, дык яны ўсе лічылі, што ён можа мець толькі дарадчы характар. Чарнамырдзін заўсёды выконваў ролю абаронцы кіраўнікоў Беларусі, як за часоў Кебіча, гэтак і зараз у час улады Лукашэнкі. Чаму? Ды таму, што ён, Ельцын і ўсе без вынятку дзяржаўныя дзеячы Расеі стаяць на вялікадзяржаўных прынцыпах, змагаюцца за аднаўленьне вялікае Расеі ў межах былога Савецкага саюзу. Іхныя палітычныя погляды, якія стагодзьдзямі фармаваліся ў псыхіцы расейскіх дзяржаўных дзеячоў, стымулююцца і чыста эканамічнымі меркаваньнямі. Трэба адзначыць, што тыя людзі, якія гавораць пра тое, што прылучэньне Беларусі да Расеі будзе для апошняй стратным мерапрыемствам, альбо ня ведаюць эканомікі, альбо, у лепшым выпадку не задумаліся над эканамічнымі аспэктамі інтэграцыі Беларусі і Расеі. Дык вось, некалькі слоў пра найбліжэйшую эканамічную карысьць, якую-б атрымала Расея наогул, а Чарнамырдзін у прыватнасьці, ад інтэграцыі з Беларусяй.

У савецкі пэрыяд В. Чарнамырдзін быў кіраўніком газавай прамысловасьці ("Газпрому") і заставаўся на гэтым становішчы да таго часу пакуль Ельцын не прызначыў яго на пасаду прэм'ера Расеі. У пасьлясавецкі пэрыяд "Газпром" стаўся акцыянерным таварыствам — прыватным прадпрыемствам, у якім пасаду першага заступніка старшыні выконвае сын прэм'ера, Сьцяпан Чарнамырдзін.

Цяпер расейскі сібірскі газ перапампоўваецца ў заходнюю Эўропу праз Украіну. Паведамляецца, што такім шляхам Расея прадае 110 мільярдаў кубічных мэтраў газу ў год у заходнюю Эўропу. Гэта прыносіць вялізарныя прыбыткі для "Газпрому" і, урэшце, Расейскай Фэдэрацыі. Паколькі Ўкраіна час ад часу павышае плату за перапампоўку газу праз сваю тэрыторыю і, наогул, вядзе сябе, як незалежная ад Расеі дзяржава, Расеі і Чарнамырдзіну, у прыватнасьці, трэба мець новую сыстэму транспартаваньня газу ў заходнюю Эўропу, якая-б была карацейшаю, не праходзіла-б праз Украіну альбо Прыбалтыку і якой-бы было лягчэй кіраваць. Карацейшым і танейшым шляхам ёсьць шлях праз Беларусь. Вось таму і будуецца вельмі сьпешна ў Беларусі газавы трубаправад, які будзе ісьці ў заходнюю Эўропу. "Газпром" зьбіраецца ўкласьці ў поўную сыстэму перапампоўкі газу 2.5 мільярды даляраў. Прадбачаючца вялізэзныя прыбыткі ад гэтае сыстэмы. Падлічваецца, што праз 15 гадоў перапампоўка газу павялічыцца да 800 мільярдаў кубамэтраў і большасьць яго будзе ісьці ў заходнюю Эўропу праз Беларусь. Ужо зараз праз "Газпром" Расея атрымоўвае каля паловы валютных прыбыткаў ад экспарту паліва. Вось як на беларускай зямлі Расея пляне і ўжо ажыцьцяўляе свае дзяржаўныя стратэгічныя інтарэсы.

У Беларусі існуе дзяржаўная ўстанова "Белтрансгаз", якая, сярод іншых сваіх функцыяў, кіруе імпартам газу для Беларусі. Нягледзячы на тое, што газавы трубаправад ў заходнюю Эўропу будуецца за грошы "Газпрому", частка трубаправоду, што будзе ісьці праз Беларусь, юрыдычна будзе належыць "Белтрансгазу", а значыць і Беларусі. Робіцца вось такая складаная сытуацыя.

Усе мы, мабыць, памятаем, як Лукашэнка дамовіўся з Ельцыным пра гэтак званы нулявы варыянт, згодна з якім Расея нібыта даравала ўсе даўгі Беларусі, зьвязаныя з купляю расейскае нафты і газу, а Беларусь адмаўлялася ад расейскіх даўгоў за ўжытак вайсковых базаў на беларускай зямлі. Як выявілася, усё гэта было ашуканствам народу. Расея газу Беларусі не прадавала, а прадаваў "Газпром", прыватнае прадпрыемства, якое ніякае дамовы пра нулявы варыянт з Беларусьсю не рабіла. Таму беларуская запазычанасьць перад "Газпромам" заставалася нячэпанай. Гэты факт Лукашэнка схаваў ад беларускага народу, а Ельцын палічыў гэтым таксама

*(Заканчэнне на с. 8.)*

*Першае інтэрв'ю на новай пасадзе* "ЗВЯЗДА"

# Сяргей Мартынаў не лічыць апошнія дакументы Дзяржэпартамента ЗША ультыматумам

**Мінулы тыдзень у Сяргея Мартынава быў першым на яго рабоце ў якасці першага намесніка міністра замежных спраў. Яго вяртанне з Вашынгтона, дзе ён дагэтуль выконваў абавязкі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў ЗША, супала з некалькімі новымі прынцыповымі рашэннямі амерыканскай адміністрацыі на тэму будучай палітыкі гэтай краіны адносна Беларусі. Паколькі Сяргей Мікалаевіч з'яўляецца адным з найбольш інфармаваных адносна беларуска-амерыканскіх адносінаў дыпламатаў, то і размова з ім карэспандэнта «Звязды» ў большай ступені была прысвечана гэтай тэме.**

***— Сяргей Мікалаевіч, якія пажаданні выказаў вам кіраўнік дзяржавы пры назначэнні на новую пасаду?***

— Так, у мяне была сустрэча з Прэзідэнтам пры назначэнні, і пажаданне было простае: працаваць на новым для мяне ўчастку ў інтарэсах дзяржавы. Гэта, відаць, самае важнае для дыпламата.

***— Міністр Іван Антановіч заначыў, што цяпер звышзадачай новага пасла Беларусі ў ЗША В. Цапкалы, які прыйшоў на ваша месца, з'яўляецца аднаўленне нармальных адносінаў з гэтай краінай. Вы як ніхто іншы добра валодаеце пытаннем аб тым, як апошнім часам развіваліся нашы адносіны са Злучанымі Штатамі і ў якім стане яны знаходзяцца зараз. Вашы ацэнкі на гэты конт былі б вельмі цікавымі.***

— Нашы адносіны з ЗША, вельмі важнай краінай, якой мы надаём асаблівае значэнне, прайшлі шлях фактычна ад нуля да значнага комплексу ўзаемаадносінаў. За гэтыя гады на шляху нашых кантактаў былі і цяжкасці, і радасці, і перамогі, і няўдачы. Я лічу гэта натуральнай з'явай. Быў час «руховага аптымізму», гэта быў пачатковы перыяд, калі здавалася, што няма вялікай аб'ектыўнай розніцы ў інтарэсах, а тая розніца, якая існавала, уяўлялася лёгкапераадольнай. Жыццё ж паказала, што гэта не зусім і не заўсёды так. Я думаю, што мы не павінны гэтага пужацца. На мой погляд, вельмі часта выказваецца празмерна песімістычны погляд на цяперашні стан нашых адносінаў, на іх нядаўнюю гісторыю. Я з гэтым поглядам не згодны. У размове з маімі амерыканскімі калегамі перад ад'ездам нашы адносіны цяпер кваліфікаваліся як «спелыя», у тым сэнсе, што ў нас уже ёсць свой «багаж» поспехаў і няўдач. І самае галоўнае, што мы выходзім на існуючую лінію адносінаў з разуменнем таго, што калі ёсць праблемы, то над імі трэба працаваць, а працаваць мы ў прынцыпе ўмеем. Я лічу, што гэта самае галоўнае. Гэта дазволіць нам крок за крокам, напружана працуючы, паступова выходзіць з кола існуючых праблем у адносінах Беларусі і ЗША.

***— Ваш прыезд у Беларусь фактычна супаў са з'яўленнем двух важных дакументаў Дзяржэпартамента ЗША адносна нашай краіны. Першы з іх — даклад аб правах чалавека з рэзкай крытыкай нашай краіны. Як вы лічыце, як беларускі бок можа і павінен адрэагаваць на гэты даклад?***

— Што датычыць даклада Дзяржэпартамента аб правах чалавека, то трэба ў першую чаргу давесці да ведама нашых чытачоў, што гэта не ёсць нейкі асобны дакумент, прысвечаны выключна Беларусі. Гэта даклад, які штогод на аснове рашэння Кангрэса ЗША, якое было прынята ўжо некалькі гадоў таму, прымаецца Дзяржэпартаментам і ахоплівае ўсе краіны свету. Па сутнасці даклада трэба прызнаць, што там выкладзены пэўныя прэтэнзіі ў наш адрас па канкрэтных раздзелах нашага заканадаўства і практыкі правапрымянення. Гэты даклад знаходзіцца ў полі зроку МЗС Беларусі, ён перададзены і ў ведамствы, якія непасрэдна займаюцца адпаведнай праблематыкай. Мы разлічваем пасля сур'ёзнага вывучэння гэтага даклада падрыхтаваць свае каментарыі, заўвагі і меркаванні на гэты конт і перадаць іх амерыканскаму боку. Больш таго, мы рыхтуем дыялог на гэту тэму. Я лічу гэта важнай складанай нашай пазіцыі, якая, як мы спадзяёмся, будзе адпаведна ацэнена знешнім светам. Мы заяўляем, што там, дзе ў нас ёсць праблемы, многія з якіх мы самі бачым, мы гатовы іх абмяркоўваць у адкрытым дыялогу. Давайце абмяркоўваць. Мы гатовыя да таго, каб рухацца ў накірунку выканання прынятых на сябе міжнародных абавязацельстваў.

***— У названым дакладзе ўпамінаецца інцыдэнт са збітым паветраным шарам з амерыканскімі спартсменамі, прычым у такім кантэксце, што, маўляў, беларускі бок дагэтуль не папрасіў прабачэння за яго. Што, сапраўды гэты інцыдэнт яшчэ не вычарпаны?***

— Калі там існуе падобны пасыл, то гэта з'яўляецца сведчаннем таго, што не ўсе заключэнні ў названым дакладзе адпавядаюць рэчаіснасці. Справа ў тым, што літаральна на наступны дзень пасля таго вельмі сумнага інцыдэнту Прэзідэнт Беларусі выказаў свае шкадаванні з гэтай нагоды кіраўніку ЗША. А праз некалькі дзён былі накіраваны самыя шчырыя спачуванні беларускага прэм'ер-міністра сем'ям загінуўшых. Таму ў гэтай частцы можна меркаваць, што Беларусь выканала свой маральны абавязак. І гэты інцыдэнт можна лічыць у палітычным сэнсе закрытым. На гэты конт у нас ёсць узаемнае разуменне. Цяпер адзіным аспектам таго інцыдэнту, які працягваюць абмяркоўваць у нашых двухбаковых адносінах, з'яўляецца праблема магчымай кампенсацыі сем'ям загінуўшых. Гэта ўжо не столькі праблема палітычных адносінаў, колькі пытанні матэрыяльна-юрыдычнага характару.

***— Як вам даводзілася там, у Вашынгтоне, змякчаць наступствы гэтага непрыемнага інцыдэнту?***

— Гэта, вядома ж, была вельмі цяжкая старонка нашых адносінаў, кажу гэта без перабольшання, асабліва ў першыя месяцы пасля здарэння. Бясспрэчна, гэта была тая частка дыпламатычнай службы, якая ў той момант не прыносіла радасці і задавальнення. Задаволенасць была хіба што ў тым, што паступова сітуацыя згладжвалася. Я думаю, што важнай была тая пазіцыя, якую заняў наш урад адразу пасля інцыдэнту, а менавіта поўная гатоўнасць да супрацоўніцтва, поўная адкрытасць інфармацыі, запрашэнне амерыканскіх і іншых замежных экспертаў для расследавання, — гэта было сведчаннем адкрытасці Беларусі. Усё пасля інцыдэнту было зроблена чыста і сумленна. Я мяркую, што гэта было ацэнена і праціглеглым бокам, што паспрыяла нялёгкай палітычнай працы па ўрэгуляванню наступстваў гэтага інцыдэнту.

Гэта якраз той падыход, які павінен вызначаць нашы адносіны, уменне вырашаць узнікаючыя праблемы, у тым ліку складаныя, гатоўнасць да ўзаемадзеяння, для іх пераадолення. Мы — дзве розныя незалежныя дзяржавы. І было б наіўным лічыць, што шлях нашых адносінаў усыпаны выключна ружамі. Ёсць аб'ектыўная розніца інтарэсаў і падыходаў. Задача дыпламатычных службаў абедзвюх дзяржаў — знаходзіць узаемапрымальныя развязкі для таго, каб адносіны ў цэлым у канчатковым выніку былі здаровымі. Я ўпэўнены, што так будзе.

***— Сяргей Мікалаевіч, у пазамінулую суботу пасольствам ЗША ў нашай краіне была выкладзена пазіцыя ўрада ЗША ў пытанні новага курсу амерыканскай палітыкі, які значна абмяжоўвае нашы адносіны. Як вы лічыце, як паўплывае гэтае рашэнне не толькі на колькасць кантактаў на вышэйшым узроўні, але і на кантакты на ўзроўні звычайных грамадзян, бізнесменаў, арганізацый?***

— Перш за ўсё трэба сказаць, што гэтыя рашэнні нельга ўспрымаць як нейкае адзінае рашэнне. Гэта быў працяглы працэс разгляду ўсіх аспектаў комплексу адносінаў ЗША з Беларуссю. Бясспрэчна, вынікі гэтага разгляду не аблягчаюць нашы ўзаемадзеянні, яны прыносяць пэўныя цяжкасці. Але было б няправільна і драматызаваць гэтую сітуацыю, маючы на ўвазе, што гэта зусім не зачыненыя дзверы ў нашым дыялогу і на шляху кантактаў паміж нашымі краінамі. Сутнасць сённяшняй сітуацыі ў нашых адносінах з ЗША ў тым, што мы сумесна з амерыканскім бокам павінны будзем знайсці ў новых умовах тыя галіны, у якіх мы на дадзены момант можам прадуктыўна супрацоўнічаць з карысцю для нашых прадпрыемстваў, грамадзян і арганізацый. І ў канчатковым выніку — для абедзвюх краін. Таксама трэба стварыць умовы для таго, каб колькасць гэтых галін паступова павялічвалася аж да аднаўлення паўнакроўнага комплексу нашых адносінаў. Важным аспектам прынятых у ЗША рашэнняў з'яўляецца тое, што дзверы ў нашых адносінах не толькі не зачыняюцца, не толькі не ставіцца на мэце ізаляваць Беларусь, як нам прама было заяўлена, але і тое, што гэтая пазіцыя не застылая, а дынамічная. Яна грунтуецца на ўзаемадзеяннях і ўзаемнай рэакцыі бакоў. Мы паважаем і высока цэнім такі падыход.

***— Што мы павінны зрабіць, каб нашы партнёры зразумелі, што ў нас ёсць крокі наперад, што сітуацыя выпраўляецца?***

— Тут, відаць, наіўна было б складаць нейкі спіс. У бліжэйшыя тыдні мы павінны вызначыць, якія галіны могуць быць ключавымі для таго, каб гэтыя адносіны былі прадуктыўнымі на цяперашнім складаным этапе, як іх весці далей. У тым, што такія галіны ёсць, сумнявацца не прыходзіцца. У нашых адносінах з ЗША існуе вялікі парадак дня. Гэта і пытанні бяспекі, у тым ліку ядзернай, нягледзячы на вывад з нашай тэрыторыі апошніх ракет. Дарэчы, у ЗША нават ва ўмовах складаных адносінаў з намі высока ацанілі вывад ядзернай зброі з Беларусі ў тэрмін, была адпаведная заява Белага дома і Дзяржэпартамента, у якой гэты крок кваліфікаваўся як учынак гістарычнага маштабу. Гэта і эканамічнае супрацоўніцтва, тавараабарот паміж нашымі краінамі расце, у нас ёсць амерыканскія інвестыцыі, хаця і не ў такіх маштабах, якіх мы хацелі б і на якія мы спадзяёмся. Затое ў нас у інвестыцыі ўцягнуты не толькі дробныя, але і буйныя амерыканскія фірмы «Форд», «Макдональдс», «Матарола», «Кока-Кола» і г. д. Гэта стварае аб'ектыўную апору ў нашых адносінах і базу для будучых кантактаў. Я ўпэўнены, што мы ў нашых адносінах са Злучанымі Штатамі павінны пераходзіць у большай ступені ад пытанняў ваенна-палітычных і стратэгічных, як было напачатку, да групы пытанняў эканамічнага і культурнага характару. Яны павінны складаць доўгатэрміновую базу нашых адносінаў.

***— Ці можна назваць апошнія заявы Дзяржэпартамента ЗША нейкім ультыматумам у наш адрас?***

— Напэўна, задача ацэньваць гэтыя дакументы як ультыматум адносіцца хутчэй за ўсё да кампетэнцыі маіх амерыканскіх калег. Але я, тым не менш, лічу, што гэта, зусім не ультыматум. Гэта выказванне думкі адной краіны ў адрас другой аб тым, у якіх галінах яна жадала б бачыць развіццё адносінаў і ў якім накірунку. Дзяржэпартамент і Белы дом неаднаразова падкрэслівалі нам афіцыйна ў дыпламатычным парадку, што яны не могуць, не маюць права і намеру аказваць ціск на ўнутранае жыццё Беларусі. Гэта сувярэннае

права народа нашай краіны. Але што датычыць іх думкі, то вось яны і выказваюць сваю думку. Таму я не схільны ні да якіх крайнасцей. Гэта не дыктат, не ультыматум, не трэба брацца ў адказ за штыкі, але і ігнараваць гэтую думку нельга, паколькі мы жадаем інтэгравацца ў сусветную супольнасць. У тым ліку са Злучанымі Штатамі мы гатовы да цяжкага, але патрэбнага дыялогу. У гэтым, я лічу, сіла нашай сённяшняй пазіцыі, у тым, што мы не зачыняемся, не спрабуем адштурхнуць ад сябе свет, мы выказваем гатоўнасць да ўзаемадзеяння і дыялогу. Важна, каб гэты рух быў узаемным.

***— Ці лічыце вы, што пазіцыя Дзяржэпартамента ЗША ў адносінах да Беларусі ў пэўнай ступені паўплывала і на ацэнкі дзяржаў Еўрасаюза?***

— Мне цяжка меркаваць, у якой ступені ЗША ўплывалі на Еўрапейскі саюз ці наадварот. Гэта датычыцца да іх унутраных кантактаў, але вядома, што паміж ЕС і ЗША і вядучымі заходнімі краінамі ў рамках той жа «сямёркі» і ў рамках НАТО існуе механізм кансультацый. Яны абменьваюцца думкамі, у тым ліку і па пытаннях адносінаў з Беларуссю. Таму, відавочна, нейкае ўзаемаразуменне паміж ЕС і ЗША па канцэптуальных падыходах існуе.

***— А ў чым прэтэнзіі Еўрасаюза, што выказваюцца да нашай краіны па выніках студзеньскай місіі ЕС?***

— Па выніках разгляду сітуацыі ў Беларусі місія Еўрасаюза зрабіла некалькі рэкамендацый ураду нашай краіны. Некаторыя з іх наш урад не можа прыняць, бо яны вярталі б дзяржаву ў прававую сітуацыю, якая б рэгулявалася дакументамі 1994 года. Гэта для кіраўніцтва нашай дзяржавы непрымальна, бо ігнарує волю, выказаную народам на рэферэндуме. Не гаворачы ўжо аб тым, што краіна не можа «адкаціцца» назад. Яна ідзе наперад, і гэта трэба разумець. Але ёсць рэкамендацыі, якія наш урад гатовы абмяркоўваць. Місія ЕС прапануе дыялог з нашым урадам, і мы гатовыя да такога дыялогу. Таму і гэты даклад ЕС, рэкамендацыі не трэба разглядаць як нейкі «канец свету», як ізаляцыю. Місія ЕС, дарэчы, падкрэслівала, што Еўрасаюз не хоча ізаляцыі Беларусі, ён хоча з ёй супрацоўнічаць. І ўрад Беларусі выказвае гатоўнасць супрацоўнічаць з ЕС, весці дыялог у галіне абароны правоў чалавека, забеспячэння свабоды СМІ, чалавечых кантактаў і г. д.

***— Такім чынам, можна назваць вас прыхільнікам сціплага аптымізму адносна будучых адносінаў Беларусі з Захадам?***

— Так, рэалістычны падыход да гэтай сітуацыі ў тым, трэба прызнаць, што складанасці існуюць, але яны пераадольныя. І з боку Беларусі ёсць палітычная воля, у тым ліку на ўзроўні кіраўніцтва дзяржавы, МЗС да іх пераадолення. У амерыканцаў ёсць такая прыказка: «If there is a wish — there is a way» — калі ёсць жаданне, то знойдзецца і спосаб. Жаданне ёсць з абодвух бакоў і ў Беларусі, і ў Злучаных Штатах Амерыкі. Паляпшэнне адносінаў адпавядае карэнным інтарэсам усіх бакоў.

***— Апрача афіцыйнай беларускай улады на міжнародным узроўні актыўна працуе і апазіцыя. Яе з вялікім жаданнем слухаюць і ў Еўрасаюзе, і ў Савеце Еўропы, і ў АБСЕ. Як вы ацэньваеце ўплыў нашай апазіцыі на Захадзе?***

— Бясспрэчна, што ніякая дзяржава, якая аналізуе сітуацыю ў іншай краіне, не адмаўляецца збіраць інфармацыю па ўсіх параметрах, у тым ліку вывучаць думку апазіцыі. Тое, што гаворыцца нашай апазіцыяй, бясспрэчна, прымаецца пад увагу. Гэтага не трэба пужацца. Мы не адмаўляем апазіцыю, яна таксама з'яўляецца ў канчатковым выніку здаровай з'явай. Важна толькі, каб у рэшце рэшт намаганні ўсіх былі накіраваны на карысць дзяржавы. Гэта павінна вызначаць маральны бок гэтых дзеянняў.

***— А ці даводзілася вам, працуючы ў Вашынгтоне, сустракацца з дзейнасцю першых сучасных палітэмігрантаў з Беларусі — З. Пазняка і С. Навумчыка?***

— Былі сітуацыі, калі супрацоўнікі пасольства і гэтыя палітэмігранты прымалі ўдзел у дыскусіях аб становішчы ў Беларусі, выступалі з адных і тых жа трыбун, але відавочна з рознымі думкамі.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Ці адбудзецца З'езд беларусаў свету?

**Гутарка з Ганнай СУРМАЧ — старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына".**



*— Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" паўстала ў 1990 г. як арганізацыя, якая служыць перш за ўсё тым беларусам, якія ў савецкі час пазбаўлены былі сувязі з Радзімай. У якім становішчы апынулася „Бацькаўшчына" цяпер, калі перыяд адноснай дэмакратызацыі ў Беларусі належыць ужо мінуўшчыне?*

— Складаны перш за ўсё наш матэрыяльны стан. Найперш па прычыне арэнднай платы за памяшканне велічынёй у 280 квадратных метраў. Не маем ніякіх ільгот і мусім плаціць па 10 долараў за квадратны метр у месяц.

Пасля Новага года прыслалі нам рахунак на тры ранейшыя месяцы, з кастрычніка. Такім чынам навесілі нам штучны доўг.

*— Чым тлумачыце такія паводзіны ўлад?*

— Наша памяшканне знаходзіцца ў цэнтры горада, у будынку, які мае ўнікальную гістарычную каштоўнасць. Тут памяшчаўся калісь Інстытут беларускай культуры, славуты Інбелкульт. У праграме „Беларусы ў свеце" ёсць утварэнне Беларускага дому. У згаданым будынку нам далі адзін паверх, а два — Навуковаму культурна-асветнаму цэнтру імя Ф. Скарыны. Мы разам адрамантавалі будынак, асвоілі яго, стварылі Музей беларускай эміграцыі. Такім чынам Беларускі дом, хаця не ў поўным аб'ёме, але ёсць. Калі нас выселяць, нашы памяшканні зоймуць камерсанты і Беларускі дом будзе знішчаны.

*— Усё ж такі, нягледзячы на абставіны, Згуртаванне „Бацькаўшчына" збіраецца правесці З'езд беларусаў свету?*

— Створаны аргкамітэт. Яго ганаровы старшыня — Васіль Быкаў, сустаршыні — гэта Радзім Гарэцкі, прэзідэнт ЗБС „Бацькаўшчына" і Пятро Краўчанка, старшыня парламенцкай камісіі замежных спраў. Я — старшыня рабочай групы.

*— Як ставяцца да вашай ініцыятывы дзяржаўныя ўлады?*

— Мы накіравалі прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку пісьмо, што рыхтуемся да З'езда беларусаў свету. Не прасілі мы дазволу, бо згодна са статутам маем права правесці з'езд як у Беларусі, так і па-за межамі. Проста паведамілі і ў той жа час запрашаем дзяржаўныя ўлады да ўдзелу.

*— Які быў адказ?*

— Дзеля абмеркавання гэтага пытання адбылася нарада, у якой прынялі ўдзел Радзім Гарэцкі са мною з боку Згуртавання, а з прэзідэнцкага боку Аляксандр Білык, які ўзначальвае Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцей (камітэт мае займацца як нацыянальнымі меншасцямі ў Беларусі, так і беларускім замежжам), прадстаўнікі Міністэрства культуры, Таварыства „Радзіма", Таварыства дружбы з замежнымі краінамі і Савета Міністраў.

Пасяджэнне вёў дарадчык прэзідэнта Сяргей Посахаў. Ён прадставіў пазіцыі дзяржаўных улад, што З'езд не павінен быць палітызаваны і не павінен засяроджвацца на крытыцы ўлад. Пыталіся нас таксама, чаму гэта мае быць З'езд беларусаў свету, а не З'езд выхадцаў з Беларусі. Для нас гэта не было пытанне. Няхай улады арганізуюць, што хочуць. Мы і так запрашаем да ўдзелу людзей іншыя нацыі, але нас цікавіць перш за ўсё беларуская нацыя.

*— А што наконт таго, што З'езд не павінен быць палітызаваны і не засяроджвацца на крытыцы ўлад?*

— Мы звернемся з пытаннем да беларускага замежжа, ці людзі прыедуць на такіх умовах?

*— Загадзя можна адказаць, што шмат хто не згодзіцца...*

— Некаторыя згодзяцца. Усё-такі, паміма натужных стараннняў дзяржаўных структур, эміграцыя ў цэлым не ідзе на згоду. Не было яе практычна на г.зв. Усебеларускім сходзе, арганізаваным прэзідэнтам Лукашэнкам.

26 лютага ў Маскве наладжана была канферэнцыя „Расія — Беларусь. Мінулае, сучаснасць, будучыня". Арганізатары меркавалі, што збяруць беларусаў Расіі і яны падтрымаюць ідэю аб'яднання з Беларуссю, але гэта відаць не ўдалося, бо нічога аб тым у сродках масавай інфармацыі не гаварылі. А з Беларусі на канферэнцыю паехаў цэлы цягнік удзельнікаў.

*— Дык што са З'ездам?*

— На пачатку сакавіка маем пазваніць сп. Посахаву і прадставіць свае пазіцыі. І самі думаем, што рабіць, калі дзяржава не падтрымае нас. Пытанне стаіць рубам: не праводзіць З'езд нельга і праводзіць у такіх абставінах нельга. Усё-такі мы вымушаны правесці З'езд у любым выпадку, бо канчаецца тэрмін паўнамоцтваў кіруючых органаў. Можам толькі рашаць, ці правесці З'езд як маштабнае мерапрыемства, ці проста правесці перавыбары.

*— У гэтым другім выпадку неабавязкова праводзіць З'езд у Мінску.*

— У нас ёсць думка, што любое беларускае мерапрыемства ў Мінску ўсё ж такі на карысць Беларусі і яно можа быць праведзенае ў канструктыўным русле: культуры, мовы, дэмаграфіі, фізічнае захаванне нацыі. Будзе магчымасць сустрэцца разам, замацаваць сваю супольнасць, адчуць падтрымку адзін аднаго. Гэта вельмі важна. Дагэтуль мы стараліся сабраць людзей прынамсі раз у год. Гэты З'езд застаўся б мерапрыемствам грамадскіх сіл, з удзелам дзяржавы.

*— Ці прадстаўнікі дзяржавы ставілі яшчэ іншыя пытанні?*

— Пытанні выклікала тэма З'езда. „Праблема захавання беларускай прысутнасці ў свеце". Мы патлумачылі, што маем на ўвазе захаванне беларускасці як у самой Беларусі, так і па-за яе межамі. Падтрымкі патрабуюць беларусы ў краінах былога Савецкага Саюза, якія толькі арганізуюцца. Апрача гэтага ім патрэбная дапамога ў чыста жыццёвых пытаннях. Шмат беларусаў жыве ў месцах, дзе ім пагражае непасрэдная небяспека: у Чачні, Таджыкістане, Прыднястроўі. Многія хацелі б вярнуцца ў Беларусь, але няма ніякай дзяржаўнай палітыкі ў гэтай справе. Мы прапанавалі весці дзяржаўную рэгістрацыю тых, якія хочуць вярнуцца на бацькаўшчыну і паступова іх прымаць. Ёсць таксама пытанні заканадаўства. Патрэбны, напрыклад, закон аб правах замежных беларусаў у Рэспубліцы Беларусь: набываць маёмасць, адкрываць фірмы; наогул прывілеі і палёгкі.

*— У Польшчы нічога такога няма, хаця шмат аб тым гаварылася.*

— Мы — нацыя, якая вымірае і павінны дбаць пра кожнага беларуса. Трэба прыцягваць беларусаў з усяго свету чым толькі можам.

**Гутарыў Алег ЛАТЫШОНАК**

«НІВА» *Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

## АПОШНІЯ НАВІНЫ

— Пад час дэманстрацыі 23-га сакавіка адбылося некалькі жорсткіх сутычак удзельнікаў з міліцыяй. Пацярпела больш за 10 міліцыянераў і арыштавана больш за 80 дэманстрантаў. Сутычкі ўзьнікалі тады, калі міліцыянеры выхоплівалі з натоўпу сьцягі ці людзей, якія супраціўляліся. Ідуць судовыя працэсы над арыштаванымі. Віцэ-сьпікэр Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Г. Карпенка за ўдзел у шэсьці 23 сакавіка быў арыштаваны назаўтра. Пры "размове ў міліцыі" з ім здарыўся сардэчны прыступ і ён на хуткай дапамозе быў накіраваны ў шпіталь. Уваход у палату пастаянна сьцерагуць некалькі супрацоўнікаў службы аховы прэзыдэнта. Суд над ім заплянаваны на 1 красавіка. Дэпутат Павал Знавец асуджаны на 5 сутак арышту і штрафам у памеры 13 мільёнаў рублёў. Завочна асуджаны адзін з лідэраў БНФ Баршчэўскі на 10 сутак і аштрафаваны на 500.000 руб. Міліцыя шукае сакратара ўправы БНФ Сіўчыка.




— Супрацоўніцтва паміж Сэймам Летувы і цяперашнім парлямэнтам Беларусі немагчымае. Аб такой пазыцыі летувіскіх парлямэнтарыяў заявіў намесьнік сьпікэра Сэйму падчас сустрэчы ў Вільні з міністрам замежных спраў Беларусі Антановічам. "Летувіскаму парлямэнту няма з кім супрацоўнічаць у Беларусі, паколькі створаны ўказам прэзыдэнта Лукашэнкі пасьля мінулагодняга рэфэрэндума Вярхоўны савет не зьяўляецца парлямэнтам".

— З шэрагу наступстваў пасьля 23-га сакавіка ў асобны блёк вылучаюцца падзеі зьвязаныя з журналістамі і іх працай. 24 сакавіка быў пазбаўлены акрэдытацыі і высланы з Беларусі караспандэнт расейскага тэлеканалу НТВ Ступнікаў — за сыстэматычнае "заведамае скажэньне інфармацыі пра падзеі на Беларусі". У той-жа дзень караспандэнтам расейскіх тэлеканалаў ОРТ, РТР, НТВ было забароне перадаваць у Маскву відыёматэрыялы, а на беларуска-летувіскай мяжы былі канфіскаваныя відыёкасэты з запісам падзей у Менску, якія журналісты хацелі перадаць у Вільню. Там-жа былі затрыманы беларускія незалежныя выданьні, што друкуюцца ў Вільні... Карэспандэнты замежных СМІ, акрэдытаваныя ў Беларусі, якім пагражае цяпер перарэгістрацыя і высылка за межы краіны наладзілі акцыю пратэсту каля будынку МЗС.

(Заканчэньне з бачыны 5-ай)

не хваліцца. Расейскі-ж дог Беларусі за забруджанасьць беларускай зямлі расейскімі вайсковымі базамі быў зьведзены Лукашэнкам да нуля. Ёсьць весткі, што Расейская Фэдэрацыя намагаецца ператварыць беларускі "Белтрансгаз" у акцыянерное прадпрыемства. Калі гэта зробіцца, дык тады паўстане рэальная пагроза, што "Газпром", за беларускі газавы доўг, перабярэ большасьць акцыяў "Белірансгазу" і, такім чынам, зробіцца ўласьнікам і "Белтрансгазу" і газавага трубаправоду, што зараз будуецца на нашай Бацькаўшчыне. Беларусь, у гэтым працэсе страціць сваю эканамічную і палітычную незалежнасьць, калі гэтая незалежнасьць наогул праісное да тых часоў. Вось, якія сумныя для Беларусі навіны. Для Расеі і Чарнамырдзіна ў прыватнасьці, інтэграцыя з Беларусяй абяцае быць ня толькі вялікім палітычным здабыткам, але і вялікаю эканамічнаю нажываю. І гэта разглядаючы толькі адну галіну беларускай эканомікі. Таму, гаварыць пра расейскія страты ў сувязі з інтэграцыяй, проста недарэчна. Цяпер робіцца зразумелым, чаму 23-га лістапада мінулага году Чарнамырдзін, Селязьнёў і Строеў /апошнія два з расейскага парлямэнту/ раптам нанач паляцелі ў Менск, каб быць у якасьці нібыта пасярэднікаў на перамовах паміж старшынёй беларускага парлямэнту Шарэцкім і Лукашэнкам. У сапраўднасьці ўсё было інакш. Якраз у той час Канстытуцыйны Суд Беларусі меўся разглядаць пытаньне імпічмэнту А. Лукашэнкі. У вадсім сьвеце з пастановаю судоў моцна лічацца, яны маюць вялікую вагу. Для Чарнамырдзіна і расейскае дзяржавы было важным прадухіліць разгляд пытаньня імпічменту, выйграць час і, гэтым самым, памагчы Лукашэнку застацца пры ўладзе. Яны гэта і зрабілі.

Каб аддзякаваць свайму расейскаму прыяцелю Чарнамырдзіну і ягонаму ўраду, Лукашэнка на Лісбонскай канфэрэнцыі выступіў з вялікай прамовай супроць пашырэньня Паўночна-Атлянтыцкага Саюзу (НАТА), быў, так бы мовіць, рупарам расейскае палітыкі на канфэрэнцыі заходніх дзяржаваў...

Калі гаварыць дакладна, Расея выступае ня столькі супроць пашырэньня НАТА, як супроць самога існаваньня гэтага абарончага саюзу. У пэрспэктыве Паўночна-Атлянтыцкі Саюз ёсьць для Расеі перашкодаю ў адбудове імперыі і ўсталяваньня калі не кантролю, дык сфэры ўплыву, якая ўключае балтыцкія краіны і краіны, якія належалі да Варшаўскага пакту. Пашырэньне НАТА канчаткова прымусіць Расею пагадзіцца з межамі свайго ўплыву, якія існуюць зараз. Палітыка Расейскае Фэдэрацыі ўсё яшчэ грунтуецца на разьліках імперскага прэстыжу і настальгіі, а не на стварэньні дэмакратычных структураў і дабрабыту для свайго народу. І сапраўды, ці-ж расейскі ўрад дбаў пра дабрабыт свайго народу выкідваючы мільярды рублёў на захопніцкую вайну ў Чэчні ў той час, калі не хапала грошай рэгулярна плаціць сваім рабочым і пэнсыянерам? Ці-ж гэта ня было ўрадавым вар'яцтвам нішчыць чачэнцаў і, нават, сваіх жаўнераў дзеля ажыцьцяўленьня імперскае палітыкі, ды яшчэ ў такі цяжкі эканамічны час для свайго народу?

Бяда Беларусі ў тым, што ёю кіруе тая самая савецкая эліта, якая кіравала і раней. У Беларусі ня было магчымасьці ачасьціцца ад духовага зла, прынесенага ёй бальшавіцкай сыстэмай, стаць на рэйкі сапраўднага дэмакратычнага адраджэньня, адхіліць ад улады старых функцыянераў, зрабіцца незалежнай краінай.

Пакуль існуе такое становішча на нашай Бацькаўшчыне, мы не павінны пакідаць нашага змаганьня за адраджэньне незалежнасьці Беларусі. Дзень 25-га Сакавіка — гэта Дзень Волі Беларусі. У гэты дзень мы сьвяткуем перамогу дабра і справядлівасьці. Няхай нас не бянтэжыць тое, што згодна з пададзенай статыстыкай, за лукашэнкаўскія антыбеларускія выбрыкі падчас апошняга рэфэрэндуму галасавала звыш 70% людзей, якія бралі ўдзел у выбарах. Праўды ва ўсім гэтым мабыць столькі, як было яе і за сталінскіх часоў. Верачы ў нашу сьвятую справу, трэба заставацца аптымістамі. Няхай нашая Бацькаўшчына застанецца ў нашых сэрцах такою, якою мы яе памятаем з маленства, пра якую пісала калісьці наступныя словы беларуская паэтка Вольго Брысь:

Беларусь — і лясы і азёры,
І палі і нябёсаў блакіт,
Беларусь — ты і шчасьце і гора
Змагароў векапомных тваіх.
Твае вочы — азёры і рэкі,
Твае вусны гаворлівы люд.
Беларусь — гэта крыўды і зьдзекі
З мовы той на якой гавару.
Беларусь не пакіну ніколі,
У чужых шчасьця мне не шукаць,
Бо няма нам найлепшае долі,
Як матулю сваю шанаваць.

/Даклад прачытаны на сёлетнім сьвяткаваньні ўгодкаў 25-га Сакавіка у Саўт Рывэры, Нью Джэрзі, ЗША./



IN MEMORIAM

## Гадавіна Сьмерці

23-га красавіка сёлета прыпадае 6-ая гадавіна сьмерці гэн. Дзімітра Касмовіча. Гэн. Д. Касмовіч пахаваны ў Нямеччыне. Быў гэта чалавек вялікае інтэлігенцыі, заслужаны змагар і патрыёт, грамадзкі, палітычны і рэлігійны дзеяч ды адданы працаўнік на ніве беларускага адраджэньня.

Вечная Яму памяць!

## Нам пішуць... Нас пытаюць...

Дарагі Сп. Прускі!

Далучаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты. З прыемнасьцю чытаю цікавы матэрыял.

Жадаю добрага здароўя, бо Ваша праца вымагае вялікага высілку, як фізычна, так і матэрыяльна. Маю надзею, што з кожным годам "Бел. Дайджэст" будзе пашыраць лік чытачоў.

Таксама жадаю Вясёлых сьвят Вялікадня ды вясёлай вясны і посьпехаў у працы. Бывайце здаровы! З пашанай, Н. К.

*Таксама жадаем Вам усяго добрага.*

Паважаны Сп. Прускі!

Шчыра дзякую за газэту і за ўсе навіны, якія ў Амэрыцы ня так лёгка знайсьці. Штопраўда, каб чытаць "Беларускі Дайджэст" трэба ведаць некалькі моваў... Дзякую за апублікаваны мой ліст і вось пішу ізноў, бо нельга маўчаць, калі ў Беларусі робяцца розныя беспарадкі. Беларусы муселі цярпець доўгі час у няволі. І вось ізноў розныя прайдзісьветы цягнуць нашу Бацькаўшчыну ў расейскае панаваньне.... Жадаю посьпехаў у Вашай працы. З пашанай, К. В.

*Дзякуем за ліст і ахвяру на газэту.*

В. Паважаны Сп. Прускі!

Дзякую Вам за газэту. Заўсёды вельмі цікавая. Хай Вам Бог дае добрага, доўгага здароўя, каб маглі інфармаваць нас аб падзеях у Беларусі. Пры гэтым перасылаю ахвяру ад Беларускага Жаночага Згуртаваньня ў К...

З пашанаю, В. Я.

*Дзякуем за добрыя пажаданьні і ахвяру на выдавецкі фонд газэты.*

Паважаны Сп. Прускі!

Вельмі ўдзячны за высылку мне Вашай добра ўладжанай і інфармацыйнай газэты. Высылаю ахвяру на выдавецкі фонд.

З пашанай і найлепшымі пажаданьнямі, Л. М.

*За ўсё моцна дзякуем.*

Шаноўны Спадар М. Прускі!

З цёплым прывітаньнем зьвяртаецца да Вас сталы чытач Вашай пачэснай газэты Ю. П. з Беласточчыны. "Беларускі Дайджэст" атрымліваю што месяц па 2 экз. Запазнаўшыся са зьместам хуценька перасылаю на Бацькаўшчыну. Нажаль шмат перасыланых паасобнікаў газэты па няведамых прычынах не трапляе да адрасатаў... Хачу нагадаць, што высылаю газэту туды, дзе ёсьць моладзь з сярэдніх ды вышэйшых навучальных установаў. Мяркую, што ў першую чаргу павінна чытаць свабодную прэсу моладзь, бо да яе належыць будучыня нашай Бацькаўшчыны... Апошнія падзеі ў Менску сьведчаць аб тым, што беларуская моладзь прабуджаецца і яна канчаткова пакончыць з дыктатурай А. Лукашэнкі...

Жыве Беларусь!

Шчыра Вам адданы чытач, Ю. П.

*За цікавы ліст дзякуем.*

Паважаны Сп. Прускі!

Перапрашаю за несваечасовую падтрымку газэты. Хваробныя, зімнія перашкоды, — на старсьць чапляецца ўсякае ліха. Апошнія нумары "Б.Д." і ўсе артыкулы па душы. Дай Вам Бог як найлепшага здароўя.

З глыбокай пашанай, М. С.

*Цешымся, што газэта падабаецца. Дзякуем.*

Паважаны Рэдактар!

Парафіяне нашага прыходу, асабліва старэйшыя, вельмі цікавяцца Вашай газэтай. Чытачоў цікавяць апошнія падзеі ў Беларусі ды іншыя весткі...

Парафіяльная Рада на сваім паседжаньні пастанавіла падтрымаць газэту фінансава. Пры гэтым перасылаем нашу ахвяру. Жадаем Вам добрага посьпеху ў далейшай працы на ніве беларускай ідэі і незалежнасьці.

Сакратар, К. К.

*Вялікае дзякуй за значную ахвяру. Трэба заўсёды памятаць, што беларуская прэса, гэта пульс нашага грамадзкага, палітычнага і культурнага жыцьця ў замежжы.*

Паважаны Спадар Прускі!

Пры аказыі хачу падзяліцца з Вамі сваім меркаваньнем да некаторых слоў малітвы «Магутны Божа». Гэта благаньне пакрыўджанага люду да Ўсемагутнага із скаргаю на сваю долю. Непахісна верычы ў Яго ласку нам трэба прасіць веры ў *Яго Праўду*... І яшчэ адна заўвага: ...зрабі магутнай... — ці ня лепш ...*свабоднай*... Гучыць рахманей і малітоўна. Жыве Беларусь!

З пашанаю, М. Г.

*Што да малітвы "Магутны Божа" мне цяжка нешта канкрэтнае сказаць. Можа Вы маеце рацыю. Цікава пачуць іншыя думкі. Дзякуем за ахвяру на газэту.*

Паважаная Рэдакцыя "Б. Д."!

Шчыра дзякую за рэгулярную перасылку газэты. "Беларускі Дайджэст" цікавы зьместам, асабліва навінамі з Бацькаўшчыны. Я сказаў-бы, што газэта ў сучасны час зьяўляецца асноўным інфарматарам для замежжа. Жадаю Вам добрых посьпехаў у далейшай працы. Перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты. З пашанай да Вас, Я. Ш.

*Дзякуем за ахвяру і добрыя словы.*

**Беларускі Каардынацыйны Камітэт**

**у Чыкага, ЗША. паведамляе, што сьвяткаваньне 25-га Сакавіка адбудзецца ў нядзелю 20 красавіка 1997 г. у Беларускім Рэлігійна-Культурным Цэнтры пры:**

3107 W. Fullerton Ave. Chicago, Il. 60647

**Кактэйл у 12:30 Абед у 1:00**

**На абедзе ўрачыстая Акадэмія і мастацкая праграма**

**Уступ: дарослыя - $20.oo Дзеці - $10.oo**

## 25-га Сакавіка ў Торонто, Канада

23-га сакавіка ў царкве Сьвятой Еўфрасіні Полацкай у Торонто а. Павал адслужыў урачыстую Літургію прысьвечаную 25-му Сакавіку, а пазьней малебень за Беларускі народ. З абодвух бакоў аналоя стаялі сьцягі — наш Бел-чырвона-белы і Канадыйскі.

Багаслужбы закончыліся адсьпяваньнем "Многае лета" усім змагаром за волю і незалежнасьць Беларусі. Сястрыцтва зладзіла скромны абед.

24-га сакавіка на Торонтаўскай ратушы лунаў наш Бел-чырвона-белы сьцяг.

Элеонора Пітушка

## АПОШНІЯ НАВІНЫ

* **Беларусь высяляе амэрыканскага дыплямата.** Высяленьне старшага амэрыканскага дыплямата Сяргея Аляксандрава з Беларусі, выклікае ў Менску непакой адносна іншых амэрыканцаў, якія знаходзяцца ў Беларусі. Яны могуць трапіць у непрыемныя абставіны з рук лукашэнкаўскіх паліцыйных органаў. Лукашэнка са сваёю бальшавіцкаю камандаю навешваюць Сп. Аляксандраву ярлык "амэрыканскага шпіёна".

* **У міжчасе** ЗША адклікала свайго амбасадара ў Менску на консультацыю ў Вашынгтон..., а новаканазначаны "беларускі" амбасадар Цэпкала... недаляцеўшы да Вашынгтона мусіў вярнуцца назад у Менск з Фракфурта. Пра Сп. Цэпкалу гавораць, што ён — прафэсыйны рускі разьведчык...

* **Адносіны з Беларусьсю** пагаршаюцца вельмі хутка і то на ўсіх напрамках палітычнае дзейнасьці. Нядаўна Вашынгтон затрымаў дапамогу Беларусі ў памеры $40 мільёнаў даль. Дапамога затрымалная дзеля таго, што на Беларусі масава парушаюцца правы чалавека — у краіне запанаваў паліцэйскі рэжым.

* **Вашынгтон** толькі-што загадаў Уладзіміру Грамыку, першаму сакратару беларускае амбасады ў ЗША пакінуць Амэрыку ў працягу 24 гадзін. Гэта адказ нашых уладаў на высяленьне амэрыканскага дыплямата з Менску.

* **Лукашэнка**, задраўшыся з ЗША як жаба з буслам, дайшоў да такога абсурду, што прылюдна заявіў, быццам-бы беларускі народ хоча дыктатуры і павароту да сталінскіх часоў...

* **Выканаўчы дырэктар** Фундацыі Сорос у Менску Сп. Пётра Бэрн быў затрыманы ў менскім аэрапорце і адасланы назад у Франкфурт... Сп. Бэрн — амэрыканец, які працуе ў Фундацыі Сороса ў Менску. Фундацыя Сороса дапамагае фінансава разьвіцьцю эдукацыі, мэдыцыны, культуры і г. д. беларускім установам і суполкам.